ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 7 (2461)

15 лютага 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## ДА 250-х УГОДКАЎ ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ



**Сёлета спаўняецца 250 гадоў з дня нараджэння нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы, ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі. Выдатную дату будуць адзначаць ва ўсіх гэтых краінах. У Беларусі створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт па святкаванні 250-х угодкаў слыннага сына беларускай зямлі. 1996 год абвешчаны Годам Тадэвуша Касцюшкі. Першыя ўрачыстасці ўжо адбыліся.**

**Герой нарадзіўся ў фальварку Марачоўшчына Слонімскага павета Наваградскага ваяводства (цяпер Івацэвіцкі раён). Менавіта там сабраліся ў пачатку лютага сотні людзей, госці з Мінска і мясцовыя жыхары, каб ушанаваць памяць славутага земляка, уславіць яго бяспрыкладную мужнасць і вольналюбівы дух.**

**Здымак Уладзіміра КАРМІЛКІНА зроблены ў час гэтай урачыстасці.**

# ГЕРОЙ ДВУХ КАНТЫНЕНТАЎ

Вялікія, гістарычныя імёны ёсць у кожнага народа. Але часам бывае так, што асобныя героі перарастаюць нацыянальныя рамкі і належаць да некалькіх народаў і нават цэлых кантынентаў — настолькі сваімі дзеяннямі яны набліжаюць заўтрашні дзень чалавецтва, настолькі правільна разумеюць напрамак развіцця грамадства. Яны становяцца сапраўднымі сусветна-гістарычнымі асобамі. Менавіта такой асобай з'яўляецца Тадэвуш Касцюшка, імя якога належыць да гісторыі двух кантынентаў -- амерыканскага і еўрапейскага, з'яўляецца гонарам народаў гэтых кантынентаў. Адзначаючы 250-годдзе Тадэвуша Касцюшкі, асобы міжнароднага маштабу, хочацца ўсё ж нагадаць, што яго жыццёвы шлях пачынаўся на беларускай зямлі.

## РАДЗІМА ГЕРОЯ — БЕЛАРУСЬ

Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся 4 лютага 1746 года ў маёнтку Марачоўшчына каля мястэчка Косава (цяпер Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці) у небагатай спаланізаванай сям'і беларускага шляхціца.

**(Працяг на 7-й стар.).**

## *Я ЛЮБЛЮ ВЕЛЬМІ КРАЙ СВОЙ ЗЯЛЁНЫ...*

# УСЕ МЫ З ХАТ

Перачытваючы творы Янкі Сіпакова, сапраўды адчуваеш незвычайную любоў і замілаванасць пісьменніка да Бацькаўшчыны. Яго вершы, балады, апавяданні, аповесці, эсэ, прытчы, нарысы, гумарэскі, паэмы ў прозе раскрываюць багацце духоўнага жыцця народа, яго шматпакутную гісторыю, шчымлівую прыгажосць нашага зялёнага краю, якой мастак не можа налюбавацца. Ды гэта і зразумела, бо пашчасціла нарадзіцца (1936) Янку Сіпакову ў найпрыгажэйшых мясцінах Беларусі, на Віцебшчыне, у краі блакітных азёр і пракаветных лясоў, хараство якіх захапляла ў любую пару года. Яго родная вёска Зубрэвічы знаходзіцца амаль побач з купалаўскімі Ляўкамі, пра якія пісьменнік напіша ў сваім эсэ "Сцежкаю Зубрэвічы–Ляўкі", прысвечанаму [illegible]ддоваму юбілею Я.Купалы і святу паэз[illegible]кое адбывалася ў Ляўках: "...Ці трэба пра гэта гаварыць, здзіўляцца, што я, ходзячы па ляўкоўскіх сцежках, ці то крадком, ці то ўвачавідкі, не хаваючыся, з г[illegible]сцю пазіраў за Дняпро, туды, дзе кіламе[illegible]ў за дзесяць адсюль -- а калі разам з г[illegible]амі ляцець назіркам, па прамой, то і яшчэ меней -- знаходзяцца мае Зубрэвічы, радаваўся, што ўсе любуюцца, захапляюцца якраз маімі мясцінамі, ганарыўся, што дзядзька Янка менавіта іх выбраў для творчасці і адпачынку -- не стрымаўся нават, паказаў з кручы Максіму Танку, дзе, у якім баку мая вёска...

Потым... мы, хто прыехаў на купалаўскае свята паэзіі, не маглі нагледзецца на неабсяжны прастор, разлог Задняпроўя, на які не хапала вачэй і душы, -- каб нарадавацца, каб назаўсёды ўвабраць у сябе гэтую прыгажосць..."

І нездарма будучы пісьменнік пачаў з вершаў, бо, жывучы сярод гэтай прыгажосці, нельга не гаварыць пра яе ўзнёслым паэтычным словам. Першыя вершы ("Ляўкі", "Янка Купала", "Летняя ноч", "Жытнёвы прыліў", "Родная песня" і многія іншыя) якраз і прысвечаны роднаму краю, яго славутым людзям, як і першыя лірычныя зборнікі: "Сонечны дождж", "Лірычны вырай", "Дзень", якія выйшлі на пачатку 60-х гадоў.

Але гэтаму лірычнаму выраю папярэднічала цяжкае ваеннае і пасляваеннае дзяцінства, пасталенне Янкі Сіпакова. Яго бацькі -- Даніла Іванавіч і Ульяна Пракопаўна -- у час вайны за сувязь з партызанамі былі закатаваны гестапаўцамі, а дзеці (шасцігадовы Янка і дзве ягоныя сястры) засталіся сіротамі, выхоўваліся ў сям'і бацькавай сястры Аляксандры Іванаўны.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ ТЭАТРА

**У Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі сёлета першы значны юбілей -- 25 гадоў з дня стварэння. Трупа тэатра і яе вядучыя артысты адзначылі яго яркім гала-канцэртам. У ім выступілі хор і аркестр, вядучыя салісты і балет. У гала-канцэрце прынялі ўдзел восем вядомых дырыжораў, з іх два мэтры гэтага жанру -- Пётр Гарбуноў з Масквы і Ян Каякс з Рыгі, вядучыя салісты з тэатраў аперэты Масквы, Санкт-Пецярбурга, Адэсы і Екацярынбурга.**

**Юбілейныя ўрачыстасці ўключылі і агляд лепшых спектакляў тэатра за 25 гадоў -- ад класічнай "Сільвы" да мюзікла, пастаўленага толькі на мінскай сцэне -- "Шклянка вады".**

**НА ЗДЫМКУ: фрагмент юбілейнага гала-канцэрта.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**



ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

НАМЕРЫ ПРЭЗІДЭНТА

## САЮЗ, ЯКОГА НЕ БАЧЫЎ СВЕТ

**У Адміністрацыі Прэзідэнта рыхтуюцца прапановы па змяненню Канстытуцыі Беларусі. Пра гэта заявіў Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 2 лютага ў прамым эфіры расійскага радыё-І "Останкино". У прыватнасці, па яго словах, гэтыя прапановы будуць тычыцца ролі Канстытуцыйнага суда. Калі Вярхоўны Савет не захоча прыняць прапанаваныя папраўкі, сказаў А. Лукашэнка, то пытанне аб унясенні іх у Канстытуцыю будзе вынесена на ўсенародны рэферэндум.**

**Гаворачы аб перспектывах узаемаадносінаў Беларусі і Расіі, Прэзідэнт нашай краіны назваў магчымым стварэнне такога саюза дзвюх дзяржаў, якога не бачыў свет, яшчэ больш магутнага, чым Савецкі Саюз. Расія, па словах А. Лукашэнкі, без рэспублік былога СССР як тулава без ног, без рук і без галавы. У галіне эканомікі, лічыць кіраўнік беларускай дзяржавы, пры развіцці двухбаковых адносінаў трэба ісці шляхам стварэння сумесных прадпрыемстваў і фінансава-прамысловых груп. У якасці станоўчага прыкладу ў гэтым сэнсе ён прывёў стварэнне такіх груп на базе Мазырскага і Наваполацкага нафтаперапрацоўчых заводаў. А. Лукашэнка пацвердзіў інфармацыю, якая была перададзена раней па каналах БелаПАН, аб плануемай ім у лютым паездцы ў Цюменскую вобласць Расіі і аб перамовах там з кіраўніцтвам расійскіх нафтавых кампаній.**

**На думку беларускага Прэзідэнта, без нашай рэспублікі Расія не зможа забяспечыць сваё прыкрыццё з Захаду. Але і беларускае войска будзе "непаўнацэнным і куртатым" без супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй. А. Лукашэнка заявіў, што пазіцыі Беларусі і Расіі адносна пашырэння НАТО на Усход супадаюць. Больш таго, ён дадаў, што інфраструктура НАТО ўжо з'явілася ля беларускіх межаў і сёння вядзеццаназіранне за ўсімі войскамі, якія знаходзяцца на тэрыторыі рэспублікі, у тым ліку за расійскімі.**

*"...Што датычыцца сродкаў інфармацыі, то тут за выключэннем прэзідэнцкіх, мы ху- ка ніякіх мець не будзем. У нас многія н залежныя СМІ выцеснены і друкуюцца па- межамі рэспублікі, што ненармальна. Музыку, як кажуць, заказвае той, хто плаціць, таму няма нічога страшнага, калі недзяржаўныя СМІ адлюстроўваюць пункт гледжання на грамадска-палітычную сітуацыю сваіх заснавальнікаў і выдаўцоў. Адзін яны павінны дзейнічаць у межах закона, і павінен рэгуляваць, што могуць СМІ, а што не могуць. Тое, што чалавек мае права свабодна атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю, -- гэта бясспрэчна. Сродкі масавай інфармацыі павінны канкурыраваць паміж сабой, яны павінны мець роўны доступ да выдавецкай базы, да крыніц інфармацыі.*

*Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі таксама павінны адлюстроўваць на сваіх старонках розныя пункты погляду. Гэта няправільна, калі якая-небудзь дзяржаўная газета адлюстроўвае думку, скажам, толькі Прэзідэнта ці толькі Вярхоўнага Савета. Дзяржаўныя СМІ ўтрымліваюцца на грошы падаткаплацельшчыкаў, якія прадстаўляюць увесь спектр палітычных поглядаў і ацэнак падзей. Але іх адрозненне ў тым, што на старонках іх заснавальнікі могуць выкладаць пункт погляду дзяржавы па той ці іншай праблеме. Усё ж астатняе павінна рэгулявацца правам журналіста на асабісты погляд. Да таго ж дзяржаўныя СМІ, якія будуць даваць толькі афіцыйную інфармацыю, будуць падобныя адзін да аднаго і стануць нецікавымі для чытача, што сёння ўжо і назіраецца".*

*(З інтэрв'ю Сяргея КАЛЯКІНА, кіраўніка фракцыі Партыі камуністаў Беларусі ў Вярхоўным Савеце, газеце "Звязда").*

РУКІ, ЯКІЯ РАТУЮЦЬ



**Мікалай ЗІНЕВІЧ — хірург. Больш за 30 гадоў яго рукі ратуюць людзей. Цяпер ён загадвае аддзяленнем у Кобрынскай раённай бальніцы. Толькі за мінулы год у аддзяленні зроблена больш дзвюх тысяч аперацый, і каля тысячы з іх правёў сам Мікалай Аляксандравіч.**

УЗНАГАРОДА ДЗЯРЖАВЫ ІЗРАІЛЬ



**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь Эліяху Валк пабываў у Брэсце. Там ён наведаў у дзень 80-годдзя ганаровага грамадзяніна горада, былога начальніка штаба Брэсцкага партызанскага злучэння Паўла Пранягіна. Пасол выказаў ветэрану Вялікай Айчыннай вайны словы падзякі і ўручыў яму медаль "Праведнік народаў свету". Высокая ўзнагарода прысуджана П. Пранягіну за ратаванне вязняў Косаўскага і Слонімскага гета.**

**НА ЗДЫМКУ: у час уручэння ўзнагароды.**

МІРАТВОРЧЫЯ АПЕРАЦЫІ

## УДЗЕЛЬНІЧАЦЬ ЦІ НЕ ЎДЗЕЛЬНІЧАЦЬ

**Міністэрства абароны рэспублікі супраць удзелу падраздзялення беларускіх Узброеных Сіл у міратворчых аперацыях у якіх бы там ні было формах, у тым ліку -- і пад эгідай ААН. Аб гэтым БелаПАН заявіў кіраўнік ваеннага ведамства рэспублікі генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў.**

**Больш таго, па словах міністра абароны, "без спецыяльнай пастановы Вярхоўнага Савета міністэрства ўвогуле не мае намеру разгля... гэтае пытанне". Што тычыцца асабіста Л.Ма...ава, то ён не прыхільнік удзелу беларускіх ваеннаслужачых у міратворчых аперацыях.**

**У той жа час, як паведаміў БелаПАН афіцыйны прадстаўнік Міністэрства замежных спраў рэспублікі, у беларускім знешнепалітычным ве...тве лічаць, што сёння існуе "аб'ектыўная неабх... ...сць удзелу Беларусі ў міратворчых аперацыях, і перш за ўсё -- пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый". На думку МЗС, "рэспубліка не павінна заставацца ў баку ад тых працэсаў, у якія ўцягнуты практычна ўсе еўрапейскія краіны".**

ВЯРТАННЕ ФЕСТЫВАЛЮ

## "МАЛАДЗЕЧНА-96"

**Аб адраджэнні Маладзечанскага фестывалю беларускай песні і паэзіі аб'явіў вядомы маэстра Міхаіл Фінберг. Сёлета фестываль пройдзе там, дзе ён нарадзіўся.**

**Хросны бацька фестывалю паведаміў, што мінулагодняя ідэя правесці яго ў Мінску стала ніткай, якая дазволіла захаваць гэта песеннае і паэтычнае свята.**

**Чацвёрты па ліку фестываль будзе адрозніваціа ад сваіх папярэднікаў тым, што яго арганізатары адмовіліся ад традыцыйнага конкурсу маладых выканаўцаў. На думку Міхаіла Фінберга, рэспубліка не можа нараджаць кожны год новых эстрадных "зорак", таму падобны конкурс будзе праходзіць у рамках фестывалю раз у 2-3 гады. "Маладзечна-96" мяркуецца прысвяціць сучасным дзеячам беларускай культуры. Яго героямі стануць Уладзімір Някляеў, Эдуард Зарыцкі і Эдуард Ханок. А гала-канцэрт фестывалю будзе прысвечаны папулярнай беларускай песні.**

ДЗЯРЖАВА І РЭЛІГІЯ

## "ГОЛАС ДУШЫ"

**Вернікі каталіцкага веравызнання звярнуліся ў Вярхоўны Савет Беларусі і сродкі масавай інфармацыі з просьбай вярнуць ім радыёперадачу "Голас душы", якая два з паловай гады выходзіла на Беларускім радыё кожную суботу і нядзелю і была прыпынена на пачатку гэтага года. У вышэйшыя колы ўлады пасыпаліся дзесяткі тысяч пісьмаў з пратэстамі і просьбамі. Перадачу "Голас душы" аднавілі, але скарацілі яе час і цяпер транслюруюць толькі па нядзелях.**

**Камітэт вернікаў у сваёй заяве дамагаецца поўнага аднаўлення радыёперадачы, што вялася на беларускай мове з мінскага Чырвонага касцёла святых Сымона і Алены. Апрача таго, беларускія католікі просяць трансліраваць касцельныя службы ў дні святаў і ўвесці штодзённыя ранішнія пяціхвілінныя перадачы. У іх да людзей са словам Божым мае звяртацца святар, каб натхніць на новы дзень і зрабіць гэты іх дзень больш плённым.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

БЕЛАРУСКІ хельсінкскі камітэт (БХК), старшынёй якога з'яўляецца вядомы пісьменнік Васіль Быкаў, выказаў занепакоенасць у звароце да міністра адукацыі і навукі В. Стражава у сувязі з яго загадам, паводле якога сярод выпускных экзаменаў за курс сярэдняй школы не знайшлося месца беларускай мове (пісьмова). Замест яе ўведзены абавязковы пісьмовы экзамен па рускай мове. БХК патрабуе змены памянёнага вышэй міністэрскага загаду, зыходзячы з раўнапраўя беларускай і рускай моў.

МАЛОЧНЫЯ прадукты, хлеб, мясныя вырабы дзесяткамі тон плывуць з Беларусі ў Расію. Іх вывозяць прадпрымальныя людзі, набіваючы сабе кішэню, бо за мяжой гэты тавар значна даражэйшы. Недасканаласць мытнага саюза паміж Беларуссю і Расіяй спрыяе спекулянтам і наносіць шкоду бюджэту нашай дзяржавы.

СУМАРНЫ аб'ём інвестыцый, якія паступілі ў Беларусь у 1995 годзе, складае 400 мільёнаў амерыканскіх долараў. (Для параўнання: Польшча атрымала 1,7 мільярда долараў). На думку Паўла Данейкі, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі і віцэ-прэзідэнта Інстытута прыватызацыі і менеджмента, заходнія эксперты не лічаць Беларусь выгадным плацдармам для выхаду на іншыя рынкі, а значыць, і не прызнаюць прывабным рэгіёнам для інвесціравання.

ЦЭЛЮЛОЗНА-ПАПЯРОВУЮ вытворчасць маюць нарэшце размясціць у Наваполацку, на заводзе бялкова-вітамінных канцэнтратаў, які доўгі час не працаваў. Гэта ўжо не першае месца, куды "сватаюць" цэлюлозна-папяровы камбінат. І, відаць, не апошняе, бо такое рашэнне выклікае трывогу насельніцтва і пратэст эколагаў.

МУЗА Заслонава, дачка героя-партызана Канстанціна Заслонава, памяняла прафесію. Вядомая як таленавіты рэжысёр-дакументаліст, яна ў апошнія гады ўзялася за дэтэктыўную прозу і напісала аповесць "Нью-Йорк--Парыж--Мінск". З'явілася кніжка, якую Муза Заслонава марыць экранізаваць. Калі ў Беларусі не знойдзецца спонсар, яна мае намер пашукаць яго ў Амерыцы, дзе ў М. Заслонавай многа сяброў.

АГЕНЦТВА "Чарнобыльінформ" (Украіна) заказала Мінскаму гадзіннікаваму заводу партыю наручных гадзіннікаў са спецыяльнай сімволікай. Яны будуць уручаны ўдзельнікам ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Сёлета спаўняецца дзесяць гадоў гэтай страшнай трагедыі.

АРЭНДНАЕ прадпрыемства "Орша" (былы завод лёгкага машынабудавання), якое спецыялізуецца на вырабе швейных машын, цяпер будзе вырабляць яшчэ газавыя рэвальверы і наручнікі. Мадэль зброі, якую ўжо пачалі выпускаць, распрацавана заводскімі канструктарамі.

ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ па зарплаце ў лёгкай прамысловасці Беларусі дасягнула 20 мільярдаў рублёў, у аўтамабільным і сельскагаспадарчым машынабудаванні -- больш за 40 мільярдаў рублёў, у радыёэлектроніцы -- 50 мільярдаў рублёў. Асацыяцыя незалежных прафсаюзаў у сувязі з гэткім становішчам плануе правесці ў канцы лютага ў Мінску мітынг-маніфестацыю.

АДНА СА СТАРЭЙШЫХ





**70 год споўнілася адной са старэйшых бібліятэк рэспублікі -- Віцебскай абласной. Яе бібліятэчны фонд налічвае звыш 800 тысяч кніг, сярод якіх нямала рэдкіх. Бібліятэку наведвае каля 45 тысяч чытачоў. Пастаяннымі тут сталі сустрэчы з пісьменнікамі, чытацкія канферэнцыі, штоквартальна выдаецца бібліяграфічны паказальнік "Віцебская вобласць".**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак Віцебскай абласной бібліятэкі; рэдкія выданні.**

ЛІЧБЫ ЯК ЛЮСТРА НАШАГА ЖЫЦЦЯ

# БЕДНАСЦЬ — НЕ ЗАГАНА, АЛЕ І НЕ ЗАСЛУГА...

Вось ужо дзесяць год мы жывём у "новым часе" -- спачатку ён зваўся "перабудовай", пасля наогул "постсавецкім". Што гэта за такі перыяд па сутнасці, бадай, ніхто так і не ведае. Зразумела адно: ужо не сацыялізм, але ніяк і не капіталізм. Можа ад падобнай бязадзінаты і нявызначанасці жыццё робіцца ўсё больш цяжкім. Амаль кожны адчувае такі стан спраў на ўласнай шкуры. А пра што сведчыць у сувязі з тым навука, у прыватнасці, сацыялогія? Прапануем чытачам некаторыя вынікі апытанняў, праведзеных сярод насельніцтва Беларусі сацыялагічнай службай "Грамадская думка", якой кіруе Д.Ротман.

Такім чынам, анкетаванне паказала: тры чвэрці апытаных ацэньваюць матэрыяльнае становішча сваёй сям'і як нездавальняючае. Толькі 5 працэнтаў здолелі за апошні год зрабіць якія-небудзь грашовыя зберажэнні. Кожнаму чацвёртаму прыйшлося адмаўляць сабе ў многіх прадуктах харчавання, а больш чым 40 працэнтам -- у неабходным адзенні. Але дзеля справядлівасці трэба адзначыць: у 1994-м аналагічныя паказчыкі выглядалі яшчэ горш.

Безумоўная наяўнасць значных праблем у сферы занятасці насельніцтва краіны. Беспрацоўе расце, і як спыніць яго, рашэнне пакуль не знойдзена. У лістападзе мінулага года больш за 20 працэнтаў рэспандэнтаў вызначылі, што яны ці іх блізкія ўжо зведалі на сабе ўсе "прыемнасці", звязаныя з адсутнасцю працы.

Што тычыцца працаўладкавання, то тут будзе дарэчы прывесці адказы, атрыманыя на пытанне: "Ці ёсць у вас другая работа?". У 1994-м адмоўна на яго адказалі больш за 80 працэнтаў апытаных, праз год -- гэта лічба, хаця і не вельмі значна, але паменшала: ужо недацягвала да 80 працэнтаў, гэта сведчыць, што пацяху людзі ўсё ж пераарыентоўваюцца са спадзяванняў на дзяржаву ці іншага "добрага дзядзьку" на ўласныя сілы.

Якое ж выйсце бачаць грамадзяне Беларусі з сённяшняй эканамічнай ды і палітычнай таксама калатнечы, якая вымотвае душу і сілы? Хутчэй за ўсё, у кожнага на гэты конт сваё меркаванне. Але са сцвярджэннем, што рэформы ідуць занадта марудна, пагадзіліся тры чвэрці апытаных.

У такіх умовах не дзіўна, што ў народзе жыве і пашыраецца настальгія па "эсэсэраўскіх" часах. І ці можна чакаць іншага, калі перамены эканамічнага стану ў лепшы бок за апошнія пяць год адзначылі толькі 7 працэнтаў рэспандэнтаў, у той час як пагаршэнне -- кожныя чацвёра з пяці.

Штогод у снежні "Грамадская думка" праводзіць спецыяльныя апытанні, прысвечаныя дэнансацыі саюзнай дамовы. І кожны раз карціна ўсё болей і болей "пераварочваецца". Калі адразу пасля віскулёўскіх пагадненняў рашэнні, прынятыя ў Белавежскай пушчы, падтрымлівалі прыблізна 80 працэнтаў апытаных, то зараз гэтая лічба не перавышае 25. Тым не менш, сёння значная частка насельніцтва схільна лічыць: Беларусь павінна заставацца незалежнай дзяржавай. Мабыць, зноў уплывае супярэчлівасць як самой свядомасці людзей, так і працэсу яе фарміравання — вельмі ж хутка адбываюцца падзеі.

У той жа час, нягледзячы на сум па няхай небагатай, але "стабільнай" савецкай мінуўшчыне, чалавеку і ў крызісны перыяд уласціва глядзець наперад: што ж рыхтуе наступны дзень? Трэба зазначыць: песімістаў на сёння, безумоўна, болей, чым аптымістаў. У леташнім лістападзе на пытанне сацыёлагаў: "Колькі спатрэбіцца часу, каб дасягнуць узроўню жыцця, які будзе вас задавальняць?", "немагчыма сказаць" і "ніколі" адказалі амаль 70 працэнтаў апытаных. Велізарная лічба, але за год да таго яна раўнялася прыблізна 80 працэнтам. І ўсё ж нават і так мізэрная лічба задаволеных сваім станам (3 працэнты ў 1994-м) праз год скарацілася да 2 працэнтаў.

Такое яно, "новае" жыццё, -- праблемнае, жорсткае, часам незразумелае. Асабліва для тых, хто не прывык рабіць яго сам, сваімі рукамі, хто чакае даброт на "спадчыку з блакітнай каёмачкай", а такіх сярод нас, былых савецкіх грамадзян, большасць; хто хаця і не лічыць сябе дурнем, крый Божа!, усё ж упэўнены, што недзе там, "наверсе" ўсё ведаюць лепей... Але новыя часы нараджаюць і "новыя песні", дарэчы, я маю на ўвазе толькі адну прымаўку: "Калі ты такі разумны, чаму такі бедны?" І сапраўды, чаму?

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

ЛЕГЕНДАРНЫ ПАРТЫЗАН-ПАЛЯШУК





**Сёлета спаўняецца 50 год з дня смерці легендарнага беларускага партызана-палешука Дзеда Талаша. Але толькі дзесяць год назад, пасля смерці яго сына Зміцера (па аповесці "Дрыгва" -- Апанаса), унукі аддалі дом у вёсцы Навасёлкі Петрыкаўскага раёна, у якім жыў Зміцер, для арганізацыі тут музея-сядзібы. Акрамя гэтага, аднаўлены і дом, у якім жыў да апошніх дзён Дзед Талаш, сабраны многія яго рэчы. Арганізатарам і стваральнікам музея-сядзібы была настаўніца Кацярына Корж.**

**НА ЗДЫМКАХ: В. ТАЛАШ (на здымку злева) сярод удзельнікаў партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны; заснавальніца музея-сядзібы Дзеда Талаша Кацярына КОРЖ.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*ПРАЗ ПРЫЗМУ ПРАЦЭНТАЎ*

# БЕЛАРУСЬ: ПАЛІТЫКА, МОВА, СУСЕДЗІ

На пытанні праведзенага ў мінулым годзе Інстытутам сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі апытання аб міжнацыянальных адносінах адказвала проста насельніцтва, людзі з вуліцы. Ці, калі ўжываць сацыялагічныя тэрміны, выбарка была выпадковай. Такая выбарка, нават калі не вельмі дакладна адлюстроўвае сацыяльны, прафесійны ці нацыянальны склад грамадства, звычайна падае ўвесь спектр грамадскай думкі і заслугоўвае даверу ў пытанні вызначэння прыярытэтаў.

Найперш — хто ён такі, гэты чалавек з вуліцы, на памяркоўнасць якога спасылаюцца шматлікія прамоўцы, што ён ведае пра сябе? Ён даволі ўпэўнена вызначае сваю нацыянальную прыналежнасць (адмовіліся ад адказу на пытанне аб нацыянальнасці толькі 0,8 працэнта апытаных) і лічыць, што нядрэнна валодае беларускай моваю. З астатніх складаючых беларускай нацыянальнай культуры яму лепш за ўсё вядомыя прозвішчы беларускіх пісьменнікаў ды нацыянальныя стравы і горш -- прозвішчы мастакоў і сэнс новага дзяржаўнага герба. (Нават пералічыць дэталі нацыянальнай вопраткі аказаліся здатнымі больш рэспандэнтаў, чым вытлумачыць, што значыць галоўны дзяржаўны сімвал). Ён, хутчэй за ўсё, лічыць сябе веруючым і не блытае нацыянальную і рэлігійную прыналежнасць, а галоўнай каштоўнасцю ўсё ж называе зносіны паміж людзьмі. У сродках масавай інфармацыі ён найперш цікавіцца палітыкай, духоўным жыццём і пытаннямі аховы парадку і ў апошнюю чаргу -- фізкультурай і спортам. Свой узровень жыцця і палітычную актыўнасць ацэньвае невысока.

Цяпер -- пытанні праблемныя, у вырашэнні якіх часцей за ўсё спасылаюцца на інтарэсы народа. На пытанне аб мове, тут сфармуляванае больш карэктна, чым падчас майскага рэферэндуму, былі атрыманы, аднак, таксама не вельмі суцяшальныя для нацыянал-радыкалаў адказы: 73,4 працэнта апытаных выказаліся за дзяржаўнасць рускай мовы і толькі 10,6 працэнта адмовілі ёй у праве на гэты статус. Але даныя яшчэ не сведчаць аб поўнай адсутнасці веры ў будучыню беларускай мовы і культуры: вучыць сваіх дзяцей па-беларуску згадзіліся 42,2 працэнта рэспандэнтаў, на пытанне: "Ці можа адрадзіцца беларуская культура?", адказалі "Адродзіцца абавязкова" 36,6 працэнта, а большасць небеларусаў спадзяецца і на адраджэнне сваіх нацыянальных культур. Праўда, памкненне да адраджэння -- хутчэй чыста ідэальнае, чым выклікане ўсвядомленай неабходнасцю. На пытанне: "Як вы лічыце, адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры ў рэспубліцы палепшыць ці пагоршыць узаемаадносіны з іншымі нацыянальнасцямі?" большасць рэспандэнтаў адказала: "Думаю, што нічога не зменіцца".

Яшчэ адно прынцыповае пытанне: "Ці падтрымліваеце вы суверэнітэт Беларусі?" Станоўчы адказ на яго далі 56,1 працэнта апытаных, а яшчэ 25,2 працэнта прызналіся, што не зусім разумеюць, што гэта значыць. Але і тут, перш чым спасылацца на "волю народа", трэба зразумець, да чаго канкрэтна гэтая воля скіравана. 52,1 працэнта апытаных лічаць, што суверэнітэт павінен праяўляцца ў самастойнасці эканомікі рэспублікі, і толькі 45 працэнтаў -- у самастойнасці палітыкі. Большасць жа (64 працэнты) упэўнена, што суверэнітэт -- гэта стварэнне больш высокага ўзроўню жыцця для народа.

І, нарэшце, пытанні аб нацыянальных амбіцыях. З непаважлівым стаўленнем да людзей іншых нацыянальнасцей сустракаліся часта 23,9 працэнта апытаных і зрэдку — 49,4 працэнта. Вынікі апытання даюць пэўныя падставы для высновы, што значная частка рэспандэнтаў ставіцца прадузята да прадстаўнікоў асобных нацыянальнасцей. Адказваючы на пытанне аб прычынах непавагі мясцовага насельніцтва да "іншародцаў", 47,7 працэнта зазначыла, што "яны паводзяць сябе як гаспадары", 38,7 працэнта -- што "лічаць, быццам усё прадаецца і купляецца", а 29,4 працэнта выбралі яшчэ больш катэгарычны адказ: "Яны імкнуцца падмануць нас". Аднак глебу для сур'ёзных нацыянальных канфліктаў на Беларусі бачаць толькі 8,7 працэнта рэспандэнтаў (48,7 працэнта лічаць, што могуць узнікнуць канфлікты не вельмі значныя). Трэба дадаць, што нацыянальная варожасць жыхароў Беларусі наўрад ці звязаная з уяўленнем аб сваёй альбо агульнаславянскай нацыянальнай выключнасці -- хутчэй, гэта даніна не лепшым традыцыям ці рэакцыя на бытавыя канфлікты. На думку апытаных, непрыманне часта выклікаюць каўказцы (79 працэнтаў), цыганы (52,1) і яўрэі (37,1), але толькі для 7,1 працэнта рэспандэнтаў яно асацыіруецца, напрыклад, з літоўцамі -- нацыяй таксама неславянскай.

Якім чынам пераадолець нацыянальную прадузятасць? Спадзявацца на тое, што яна знікне ў міжнацыянальных шлюбах, не варта: вельмі малая колькасць рэспандэнтаў абрала б у якасці сваяка не беларуса ці рускага, і толькі для 25,4 працэнта нацыянальнасць тут не мае значэння. Больш надзеі на паўсядзённыя зносіны з суседзямі. Да іх нацыянальнасці індыферэнтна ставяцца адпаведна 63,7 працэнта і 60,2 працэнта. Але тут усё залежыць ад таго, які, скажам, каўказец трапіць у начальнікі ці суседзі. Лозунг "узаемаразуменне праз культуру" таксама наўрад ці мае ў нас пераможную сілу: 49,4 працэнта рэспандэнтаў выказалі жаданне болей ведаць пра людзей іншых нацыянальнасцей, але толькі 21,7 працэнта з іх згодны чытаць кнігі па тэме, для большасці ж гэта жаданне --проста мара аб падарожжах. Таму, як заўсёды, галоўныя спадзяванні на дэпутатаў. Іх нацыянальная прыналежнасць не важная для 40 працэнтаў рэспандэнтаў, і, значыць, з парламенцкай трыбуны прадстаўнік любой нацыі мае магчымасць прадэманстраваць свае лепшыя якасці -- як уласна нацыянальныя, так і агульныя для ўсяго шматнацыянальнага беларускага народа.

**Марына КУНОЎСКАЯ.**

*("Народная газета").*

*ВЕРА*



**Святлана ЧЫЖЫК -- паслушніца адкрытай нядаўна ў Мазыры Саята-Нікольскай царквы. Яна да таго ж і настаўніца нядзельнай школы, хаця вучыцца і сама: Святлана -- студэнтка Палескага універсітэта. Каля 50 вучняў прыходзяць ў школу і знаходзяць тут шмат цікавага.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*З ВІЛЕНШЧЫНЫ*

## ВАНДРОЎКА НА АЗЁРНУЮ ВІЦЕБШЧЫНУ

Нядаўна вучні беларускай школы горада Вільні здзейснілі задуманую вандроўку на Віцебшчыну. Раніцай на школьным аўтобусе ад'ехалі ад школы. Хоць дзень быў пахмурны, накрапваў дождж, але настрой ва ўсіх быў цудоўны. Ехалі, жартавалі, слухалі музыку, любаваліся краявідамі. Настрой сапсавала мытня, бо на мяжы прастаялі гадзіну, цяпер не так лёгка пабываць на сваёй гістарычнай радзіме. Шэсць гадзін былі ў дарозе і вечарам прыехалі ў Наваполацк, дзе на турыстычнай базе размясціліся на начлег.

На наступны дзень паехалі ў Віцебск. Віцебшчына -- азёрны край! Знаёмства з горадам пачалося з высокага берага Заходняй Дзвіны, потым наведалі унікальны манетны музей, гістарычны музей, помнікі старажытнага і вечна маладога горада, у якім цесна пераплятаюцца шляхі мінулага і сучаснага. Лёсы многіх вядомых людзей звязаны з тысячагадовым горадам на Заходняй Дзвіне. Колькі бачыла за стагоддзе старая віцебская ратуша! Гэта вядомы ўсяму свету мастак Марк Шагал, які нарадзіўся ў Віцебску, віцэ-губернатар Іван Лажэчнікаў, у 1812 годзе ў ваенны шпіталь Віцебска прывезлі бацьку Міхаіла Лермантава. У Віцебску былі Ілья Рэпін і Уладзімір Маякоўскі. На беразе Дзвіны спыняўся Аляксандр Пушкін у траўні 1820 года і ў жніўні 1824 года на шляху ў паўднёвую ссылку і калі вяртаўся назад. Зараз на гэтым месцы стаіць арыгінальны помнік рускаму паэту, дзе мы спаткалі віцебскага паэта Давіда Сімановіча, які падараваў нам свой зборнік вершаў.

На наступны дзень мы былі ў старажытнай сталіцы Беларусі -- Полацку. Тут усё звязана з гісторыяй: Чырвоны мост, помнік Францішку Скарыне, будынкі старога горада. Наша знаёмства пачалося са Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра -- келля, двор, дзе 800 гадоў назад жыла, малілася, працавала патрыётка і асветніца Ефрасіння Полацкая. Усё тут уражвае, вельмі чы прыбрана, цішыня.

Потым мы паоывалі ў белакаменнай Полацкай Сафіі. Як прыгожа і трывала будавалі нашы продкі! Шмат яна бачыла разбурэнняў, войн, але выстаяла і сёння здзіўляе нашчадкаў. Сваімі вежамі рвецца ўвысь, вяртае ў мінулае і, здаецца, заклікае: "Спыніцеся, пастойце, паглядзіце, паразважайце". Побач, на крутым беразе Дзвіны, стаіць Барысаў камень. Потым мы знаёміліся з гістарычнымі мясцінамі Полацка, наведалі музей кнігадрукавання. І, увогуле, кожны драўляны дом горада -- помнік народнага мастацтва. Такія прыгожыя ліштвы на вокнах, выразаныя з дрэва, кожная непаўторная, гэта гаворыць аб мастацкім гусце і майстэрстве продкаў.

Поўныя ўражанняў ад убачанага і пачутага, мы вярталіся ў Вільню. Па дарозе заехалі ў вёску Празарокі, што на Глыбоччыне, наведалі музей заснавальніка беларускага тэатра Ігната Буйніцкага (1861-1917), які нарадзіўся недалёка ад Празарокаў у вёсцы Палевачы, потым вучыўся ў Рызе і зноў вярнуўся ў родную вёску, працаваў каморнікам і тут заснаваў тэатр. Музей знаходзіцца ў будынку мясцовай школы. Заснавала музей настаўніца беларускай мовы і літаратуры Вольга Гянько, якая працавала ў архівах Вільні і Мінска, сабрала шмат дакументаў, фотаздымкаў, вельмі цікава расказвала пра І.Буйніцкага. Вось прыклад адданасці сваёй справе. Калі ў чалавека ёсць ідэя, ён зможа вытрымаць усякія цяжкасці. А іх наперадзе шмат у Вольгі Дзмітрыеўны: пачата будаўніцтва музея І.Буйніцкага, асобнага будынка.

Потым заехалі ў вёску Прошкава, наведалі музей экалогіі, школу. Дарэчы, школы ў вёсках Празарокі і Прошкава добра абсталяваны, ёсць падручнікі, дастаткова наглядных дапаможнікаў.

Ноччу стомленыя, прыціхлыя вярнуліся дадому ў Вільню.

А наперадзе новыя сустрэчы з Бацькаўшчынай.

**Леакадзія МІЛАШ.**

ЗАМЕСТ ЮБІЛЕЙНЫХ НАТАТАК

# КАЗАЎ УЛАШЧЫК...

Недалёка -- Воўкавічы. Цяпер гэтыя начальнікі, хай іх халера, перарабілі на Валчковічы! І скрозь лес Скарынінскі. Вясною да таго лесу падыходзіш, сэрца ад хараства млее. Не ведаю лесу, дзе б так гожа птушкі спявалі. У 1921 годзе быў загад Троцкага рыхтаваць лес на паліва для чыгункі, дык я хадзіў на пілаванне... Далей ішоў лес Прылуцкі, куды горшы, -- зараз кэмпінг там зрабілі. Балоціста там было і, вядома, "нячыстая сіла" вадзілася. Коні гразлі, вясной трэба было далёка аб'язджаць. А Скарынінскі -- на высокім месцы. Зяблікі, зязюлі, а жаваранкаў... адусюль, здавалася, туды пазляталіся, -- такі галас густы, пералівісты! Вось пішу да сястры: помніш, як мы праз Скарынінскі лес хадзілі?..

### НАСТАЎНІКІ

У Мінску пры Пілсудскім дзве беларускія школы адчыніліся: пачатковая -- 3-класная і сярэдняя (рэальная). Мая мара была трапіць у рэальнае вучылішча: надта ж прыгожая форма была ў рэалістаў. Але адзінка па арыфметыцы на ўступным экзамене ўсё перакрэсліла. Што ўжо адплакаў тады... Так я апынуўся ў пачатковай. У трэцім класе -- 1919 год -- да нас трое настаўнікаў новых прыйшло. Шнаркевіч Язэп -- мову і літаратуру беларускую весці, Гурскі Міхась -- пазней дырэктарам Купалаўскага тэатра-працаваў, з ім мы на высылцы, у 31-м, ад Мядзведзева да Кацельнікава ў адным чоўне плылі, а трэці -- Тэраўскі, спевы выкладаў, -- маленечкі такі, лысы.

Дык ведаеце, гэтаму Шнаркевічу патрэбіўся з які месяц, каб з нас "русский глянец" дашчэнту злез. Дагэтуль жа ледзь не кожан з вучняў наровіў падкрэсліць сваю "нетутэйшую" культурнасць. Было троху шляхцюкоў, троху жыдкоў -- пераважна з гораду, а рэшта -- працейшыя, з вёсак колькі чалавек. Аднаго разу прачытаў быў "Горад і вёска" Сігізмунду, аднакласніку. Той старэйшы быў, гадоў мо 18, вечарамі ў рэстаране афіцыянтам прырабляў ужо. І ўявеце сабе, выслухаў гэты шляхцючок маю дэкламацыю, але ж як паблажліва: "Я простой язык панимаю", -- вось і ўсё яго ўражанне. Мне ж рупіла паказаць, што і я адукаваны, ня горшы за іншых, а тут...

Пасля, як прыйшоў Шнаркевіч ды пачаў чытаць нам "Дыяменты беларускай паэзіі", затым "Родныя зьявы" Коласа... А следам за настаўнікам і вучні пацягнуліся да беларускага слова. Памятаю, у класе ўголас чыталі "На Вялікдзень". Не паверыце, а чытанне тое і праз шэсцьдзесят гадоў да драбніц помніцца: "Ноч была ціхая, цёмная, цёплая..." Надта ж гэта да душы прыпала, што велікодная ноч зазвычай бывае і цёплая і ціхая. І вось гэты Шнаркевіч пазаймаўся з намі якіх з паўгода, а як жа разварушыў пачуцці, фантазію, -- пад настаўніка цяпер ледзь не кожан мкнуў раўняцца. Пра Нямігу колькі ён цікавага распавядаў, здаецца, тады -- "Слова аб палку Ігаравым" упершыню пачуў як беларускі твор. З Шнаркевічам я пасля спаткаўся ў Вільні -- у 1966 годзе. Меў ужо сваю кнігу -- прывёз яму.

Тое ж самае і з Тэраўскім -- ці не ўпершыню пачалі мы, вучні, па-беларуску спяваць.

**А ў бары-бары**
**тры дарожанькі,**
**тудою ішлі**
**тры жаўнерыкі...**

Гэта ж спазніўся быў на ўрок ці што, не помню ўжо, але ў клас не пайшоў. І вось стаю на карыдоры пад дзвярыма і слухаю, як яны ў класе спяваюць -- ладна так, стройна "А ў бары -- бары...". І крыўда нейкая агорала, памятаю, мяне, што яны там спяваюць, а я за дзвярыма стаю.

***

25 сакавіка 1920 года -- вясновa было, помніцца, сонечна. Вывелі нас, вучняў, на вуліцу -- свята, кажуць. Што за свята, -- пытаемся. Дзень Народнай Беларускай Рэспублікі, -- такім макарам і першае маё дзяржаўнае святкаванне ад іх -- ад Шнаркевіча і Тэраўскага. Тады ж з нашага класа тры чалавекі пайшлі ў Беларускае войска. Форма звычайная, але на шапках -- Пагоня. Глядзелася! І нам, маладзейшым, зайздрасна было. Бядуля ж, Змітрок, маёрам Беларускага войска быў. І Леніна, і бальшавікоў сцябаў, але не кранулі яго, пранесла...

### РУСЬ -- ЛІТВА -- СКАРЫНА

Скарына, бачыце, пачаў друкаваць кнігі. Але ж існавала ўжо багатая рукапісная традыцыя, з якой ён вырас. Дык вось паспрабуйце [...]віць сабе -- з якімі ру[...]пісамі знаёміўся Скарына, якой кніжнасцю -- і рукапіснай, і, магчыма, друкаванай -- Полацк тагачасны жыў, што мог чытаць малады [...]ранцішак. Відаць, і летапісы [...]даў ён. І ў самым Полацку летапісанне вельмі верагодна, што вялося. Урывак, на які спасылаўся Тацішчаў, наўрад ці выпадковы. Тое ж самае і з друкаванымі кнігамі -- у Скарынавыя часы траплялі ж яны на беларускія землі. Калі б прааналізаваць Скарынавыя прадмовы, іншыя яго тэксты -- можна натрапіць на якія ўскосныя звесткі -- што ён чытаў. Але ж трэба чытаць ды перачытваць: не пяць, не дзесяць, а хаця б разоў дваццаць. За кожным такім перачытваннем нешта новае заўважаеш.

***

Скарына -- ён жа і дзяржаўнік, не толькі перакладчык Біблії. "Братия мои русь" -- гэта ж пісалася, калі Літва спрабуе стаць цэнтрам усяе рускае дзяржавы, палітычна кансалідаваць рускія землі, насуперак Маскве. Адсюль і Смаленск -- цэнтр руска-літоўскага летапісання. Чаго не могуць абвергнуць Абэцэдарскі і вучні, скрозь у іх адно і тое ж: Літва дэнацыяналізоўвала Беларусь. Падумаць толькі -- пануючы народ дэнацыяналізуецца! Гэта ад Л. ідзе, катэгарычнасць.

Русь... Ці была ў часы Скарыны розніца паміж Украінай і Беларуссю? Тады ж і Магілёў, і Валыншчына было тое самае. Любаўскі піша -- Літоўска-руская дзяржава не саступала ў магутнасці ніякаму. А вайсковая дэмакратыя ў Літве -- высака стаяла. Цяпер жа ў беларускіх публікацыях, хай іх халера, так і пішуць -- "прастол". А было ж скрозь "сталец". Наваградак -- першая сталіцца (XIII стагоддзе), з часам уступае ў саюз з Літвой. Але Літва -- толькі дапаможная сіла, а кіруючая -- наваградская дзяржава. Раскопкі наваградскія, культура -- сляды, якіх нідзе няма.

***

Унія Літвы з Польшчай. З падручніка ў падручнік: імкненне польскіх феадалаў на Усход. А тое, што Літва мусіла бараніцца ад Усходу, ад Масквы -- ціша.

Гэтаму пстрыкачу з універсітэта я так і напісаў: ня трэба хаяць Каяловіча, бо розніца паміж Вамі і Каяловічам у тым, што Вы спасылаецеся на Маркса, а Каяловіч -- не.

***

Як я гляджу на Ермаловічаву легенду аб заваяванні беларусамі Літвы? Гіпотэза карысная. Бо змушае перагледзець устарэлыя погляды. І маладым імпануе -- чаму не яны нас, але мы іх. Але ж абвергнуць даўнюю канцэпцыю -- няпроста. Лацініку трэба ведаць і не абы-як, а навукова; літоўскую мову -- старажытную, нямецкую; старaславянскую, летапісы -- так, як ведае іх Лаўмяньскі. Шкода, універсітэт далёкі ад гэтых спраў.

### БЕЖАНСТВА

Такая страшэнная драма! Людзей пагналі, палілі вёскі. Па ўсяму свету беларус -- на пакідзішча, да Андзіжана, Уладзівастока. Каб гэтую тэму ўзяць было гадоў дваццаць назад. Яшчэ жывыя былі людзі, якія бежанства перанеслі ў першую вайну. Маглі б вучні распытаць іх -- дзе былі, як жылі. Трэба было праз газету. Гаварыў я пісьменнікам, у Інстытуце гісторыі. "У вас такая ідэя, то і рабеце", -- вось так. А Т. і гаварыць не стаў. Мне восем ці дзесяць школьніц ад сваіх бабулек успаміны даслалі. Зоська Верас з Вільні меркаванні выказала. Але ж работа вялізная, усенародная, лічыце.

***

Як паехалі ў свет -- знайшлі сваю нацыю. Скрозь жа дома звалі сябе рускімі. А тут у Тамбове ці Саратаве ім, не без насмешкі: "Какие же вы русские, -- по-русски и говорить как надо не умеете". У нас, у Віцкаўшчыне, падчас першай вайны салдаты стаялі. "Вы кто?" -- у мацеры пытаюцца. "Мы рускія", -- адказвае. "Какие вы русские! Вы -- поляки!" -- і на ікону уніяцкую на куце паказваюць.

### МОВА. ШКОЛА. БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

Самае хворае ў нас месца -- мова. Трэба ж! У школе толькі з трэцяга класа вучыць мацярынскаму слову дазваляюць. Даехалі!

Ведама, у нас жа скрозь лічылася: правільна -- па-руску, далікатна -- па-польску.

Быў я на бацькавай радзіме. У Дзяржынску заходжу ў музей. "Дык чаго ж вы, пытаюся, не маглі па-беларуску напісаць?". Ш., дырэктар школы -- з нашай жа вёскі, але ж, бачыце, "правільным" стаў. Што яму беларускае -- начальства злаваць.

Некалі дырэктару школы ў Клецк я паслаў "Хроніку Быхаўца". Адказаў чалавек, таксама культурны і ў паперах дасведчаны: "Очень благодарен за книгу".

***

Жыдкі, кажаце. У 25-м, 26-м годзе, як пайшла беларусізацыя, дык яны вунь як стараліся. Шыльды на сваіх лаўках -- толькі па-беларуску: "Дробны гандзюль"... Тады ж ніводнага шыльду не было, каб не па-беларуску.

Го! У тыя часы -- вы ж не памятаеце -- беларусіцца модна было. Хто не ўмеў -- стараўся.

**Аляксей КАЎКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 6.**




**Сяргей ПЯСЕЦКІ**

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

— А я на іх пляваць хацеў, — адказаў са злосьцю. — Няхай даносяць! Папрашу Шчура, каб абавязкова даведаўся, калі ізноў пойдуць за граніцу, і на "чыстую" іх выведу!

— Гэта я разумею! У гэта я гуляю! — вымавіў Грабар.

— Што казаў Шчур? Будзе работа?

— Зараз нічога няма. Шчур сказаў: пацярпіце! Няхай стануць цёмныя ночы. Тады пачнецца работа! Першая катэгорыя!

— Абрыдла мне чакаць.

— Дык пайшлі да баб. Ведаю тут у адной вёсцы такіх кабет, што трасца чалавека схопіць! Першая катэгорыя!

Сонца зайшло. Вырушылі ў вандроўку да адной з навакольных вёсак. Садзімся на вялікім камені, непадалёку ад апошняй з канца хаціны, і зводдаль назіраем за вячэрнім рухам на вёсцы. Пастухі гоняць з выпасаў, у хмарах пылу, чароды кароў. Каля нас праходзіць селянін. У яго вялізны ўскудлачаны лоб і магутныя, счарнелыя, дэфармаваныя ступакі ног.

— Памагай, Божа, Валентаму! — крычыць яму Грабар.

Хлопец паварочвае да нас потны твар.

— Га?.. Дзякую!

Пакрочыў далей.

— Бачыш, які аўтаматычны карабін, — вымавіў Грабар.

— Дзе аўтамат?

— Ну, на плячы нясе.

— Гэта ж вілы!

— Уласна... Беларускі аўтаматычны карабін, адразу 5 дзюрак робіць!

— Ну, а як выглядае беларуская гармата?

— Сякера, — кажа Грабар. — Дай у лоб, конь ня вытрымае!

Ад лугавін да нас набліжаецца гурт дзяўчат з граблямі ў руках. Спадніцы ў іх высока падатыканыя, кашулі потныя. Як на парадзе, трасучы цыцкамі, праходзяць побач, пакідаючы пасьля сябе моцныя пахі поту, сыру, цыбулі і гною. Паглядзелі ўважлівымі каровінымі вачыма бяз выразу і пайшлі далей, з выклікам калыхаючы бёдрамі.

— Ганка, у цябе каса заплялася! — крычыць Грабар.

Адна з дзяўчат датыкаецца далоняй шыі.

— Ня ззаду... сьпераду! — кідае ёй Грабар.

— А што б цябе трасца ўзяла, — адказвае Ганка.

Астатнія дзяўчаты паказваюць у шырокіх усьмешках ружовыя дзясны і па эскадрону здаровых белых зубоў.

— Прыходзьце, хто хоча, да Акуліны. Пагуляем! — крычыць усьлед дзяўчатам Грабар.

— Добра, — адгукаецца здаля адна зь іх.

Сядзім далей на камені. Надыходзіць цёплы веснавы вечар. Зьмяркаецца. Грабар падымаецца зь месца і, сьціснуўшы кулакі, пацягваецца, аж косьці трашчаць.

— Ну, пайшлі! Пагуляем, першая катэгорыя!

Крочым вузкай крывой вуліцай ў глыб вёскі. Усё тут натуральна: смурод, бруд, голад... Жанчыны таксама: калі прыгожыя — дык прыгожыя, калі брыдкія — дык брыдкія. Ва ўсёй вёсцы ня знойдзецца гарсэта, парыка, штучных зубоў. Толькі крыху румян, пудры і памады. І то ў адной зь дзьвюх, больш заможных, хацін, якія знаходзяцца ў цясьнейшым кантакце зь мястэчкам.

## 8

Ноч цёплая і ціхая. Цёмнае неба пакрыта мноствам зорак, якія асьвятляюць мясцовасьць на значай адлегласьці. Сяджу на беразе высокага, у некалькі метраў, абрыву, унізе якога ляжыць тракт, што вядзе з Ракава на Мінск. У левай руцэ трымаю ліхтарык, у правай — зараджаны парабел.

Уважліва ўглядаюся ў напрамку моста, які знаходзіцца ў ста кроках ад мяне. Сюды далятае шум вады, але я ня бачу ні моста, ні рачулкі. Зьлева ад моста вада булькае па каменьнях. Чакаем паўстанцаў, якія будуць вяртацца гэтым шляхам з Саветаў, несучы шкуркі. Павінны, як лічым з дакладнай інфармацыі і ўласных назіраньняў над мясцовасьцю, перайсьці па камянях р[illegible]ку, а пасьля, праз выка[illegible]о ў доўгім узгорку дарогу, выйсьці на вялікую паляну. Тут дарога ўтварае нешта накшталт яра шырынёй на чатыры-пяць метраў, а даўжынёй у нека[illegible]зесяткаў крокаў.

Я знаходжуся з аднаго боку, а Шчур насупраць, каля ўвахода ў гэты штучны яр. Зручная пастка для групы, за якой палюем два тыдні і якая ўжо тры разы высьлізвала ў нас з рук. Ім неяк дзіўна шанцуе! Гэта нас дражніць, і мы з упартасьцю высочваем іх далей. У гэтым яры робім засаду тры начы запар.

Стаіць сярэдзіна жніўня. Лета адплывае. Чацьвёрты месяц палюем на паўстанцаў. Схапілі больш дзесяці груп. Напэўна, больш, чым стражнікі з двух бакоў граніцы на працягу ўсяго года. Малыя парты паўстанцаў, якія ходзяць на ўласную руку, не чапаем увогуле: гэта занадта дробная для нас рыба. Высочваем вялікія групы, якія пераносяць дарагі тавар. Некалькі груп разьбілі ўшчэнт, бо купцы, убачыўшы сталыя правалы, перасталі даваць ім тавар. Ня раз працуем "на моцую" з машыністамі тых груп або зь іх членамі, якія дамаўляюцца са Шчурам у вялікай таямніцы перад астатнімі сябрамі. Менавіта яны паказваюць дакладныя дарогі і пункты, а мы наладжваем засады ў Саветах. Імітуючы падпольнікаў, чэкістаў, сексотаў, бяром іх "жыўцом", перш чым тыя здолеюць зразумець, што адбылося і хто мы такія.

На мне чорная скураная куртка і шапка з чырвонай зоркай. Акрамя гэтага, нашу карычневыя штроксы, абшытыя скуранымі лампасамі, і боты з доўгімі халявамі. Гэтаксама апрануты і Грабар. На Шчуру доўгі вайсковы шынель і вайсковая шапка без адзнак.

Ужо першая гадзіна ночы. Мне вельмі хочацца спаць, але перамагаю санлівасць і пільна ўзіраюся ў напрамку моста. У гэты момант ззаду чую нейкія ціхія шолахі. Нахіляюся да зямлі і падрыхтоўваю рэвальвер. Разносіцца ціхі сьвіст. Два разы. Адказваю. Збоку, з-за дрэў, паказваецца Шчур. Садзіцца каля мяне і шэпча:

— Напэўна, ужо ня пойдуць.

— Напэўна... Далёка па першай...

— Закурым?

— Давай.

Адыходзім у глыб лесу. Здымаю зь сябе куртку. Кладуся на зямлю. Накрываю курткай галаву і верхнюю частку тулава. Закурыў папяросу. Хаваю яе ў руках і вяртаюся да Шчура. Ён таксама запаліў папяросу.

Доўга сядзім моўчкі і курым. Адначасова ўважліва прыслухоўваемся, што робіцца навакол, і аглядаем перад сабой мясцовасьць.

Сядзім на краі адхону. Ногі зьвесілі ўніз. Пад намі рассьцілаецца шэрая паласа дарогі і зьнікае ў сівым сутоньні.

Грабара з намі няма. Ён у засадзе з другога боку рэчкі ў купіне кустоў, недалёка ад моста. Мы ўлічваем тое, што група можа падаць іншай дарогай, бо зь левага боку моста таксама знаходзіцца брод. Калі б Грабар заўважыў, што паўстанцы перапраўляюцца там, ён павінен быў паведаміць пра гэта, і мы разьлічвалі перапыніць іх у некалькіх кілямэтрах ад абранага месца.

Калі сядзелі, асьцярожна пакурваючы, на краі адхону, заўважыў, што ўнізе нешта рухаецца. Гэта выглядала так, як бы раптоўна частка дарогі пачала бяз шуму паўзьці ўгару... Пасьпешліва нахіляюся ўніз. Чую лёгкі звон, нібы ад удару металу аб метал. Зноў такі самы звон. Напэўна, стук зброі... Падымаю з каленяў парабел і кладуся на крайку рова. Шчур укленчыў побач з рэвальверам, падрыхтаваным да стрэлу. Сплывае некалькі секунд, і мы бачым, як унізе, акурат пад намі, сунуцца два ўзброеныя чырвонаармейцы. Іх сівыя шынялі зьліваюцца з шэрым фонам дарогі, і, калі б ня рухаліся, нельга было б іх заўважыць нават з такой блізкай адлегласьці. Лёгкі бразгат зброі грыміць без перапынку, пры кожным іх кроку. Тупату ўвогуле не чуваць, бо ногі чырвонаармейцаў патанаюць у мяккім пыле, што засьцілае дарогу...

Усё глядзім уніз. Губляем іх са зроку. Лёгкі стук зброі сьціхае ўдалечыні.

— Пайшлі, — ціха кажу я Шчуру.

Той доўга не адказвае мне, а пасьля шэпча:

— Не... Стаяць...

— Пайду пагляджу.

Падымаюся і, робячы павольна і ціха вялікае паўкола паміж соснаў, якімі зарос верх рова, выходжу на ўскрай вялікай паляны, пасярэдзіне якой бяжыць дарога да граніцы. Не адрозьніваю ні процілеглага, парослага лесам краю паляны, ні мастка на дарозе, у той жа час мне здаецца, што я чую ляскат зброі, які аддаляецца. Кладуся на зямлю і гляджу ў напрамку дарогі такім чынам, каб позірк наўскасяк трапляў на цёмны фон неба. Абсяг так значна пашыраецца. Мне здаецца, што адрозьніваю постаці людзей, якія адыходзяць па дарозе. Амаль упэўнены ў гэтым. Вяртаюся ў лес і крочу да краю абрыву. Тут у адным месцы, паміж выступаючымі карэньнямі сасны, я пакінуў брызентавую торбу, у якой было шэсьць пляшак сьпірту, літр лікёру і больш дз[illegible]ка шакаладных плітак.

Шукаю тое месца. Нахіліўшыся ўніз, павольна іду паміж дрэвамі. У левай руцэ ліхтарык, у правай парабел. У гэты мома[illegible]ўважаю ля краю абрыву, не[illegible]ёка ад пня старой сасны, нейкую шэрую пляму. Думаючы, што гэта мая торба, нахіляюся, каб яе ўзяць. Нечакана тая пляма адсоўваецца ад маёй выцягнутай рукі, і я чую крык:

— Кто это? Руки вверх!

Раблю моцны скачок назад і ўніз. Укленчваю і з выцягнутай улева рукі накіроўваю перад сабой сноп электрычных промняў з ліхтарыка. Бачу дзьве галавы ў будзёнаўках з чырвонымі зоркамі наперадзе. Дзьве карабінавыя рулі, накіраваныя ў тое месца, дзе перад гэтым за хвіліну быў я. Адначасова справа, зь берага рова, бліснуў яшчэ адзін ліхтарык і даляцеў голас Шчура:

— Руки вверх!

Я пагасіў свой ліхтарык і саскочыў уніз з абрыву, які ў гэтым месцы быў высокі, і апынуўся паміж чырвонаармейцамі. Трымаю напагатове парабел. Шчур сьвеціць на нас зьверху.

— Што за такія, сукіны дзеці? — пытаюся, лаючыся па-расейску.

— Чырвонаармейцы.

— А што вы тут, да д'ябла, робіце?

— Вяртаемся з Краснага. Былі там у засадзе.

— Адкуль будзеце? З граніцы?

— Ну, так.

— А хто вам дазволіў бадзяцца па тылах і рабіць засады?

— Палітрук.

— У вас ёсьць чырвонаармейскія кніжкі?

— Не.

— А адкуль я, да халеры, магу ведаць, што вы сапраўдныя чырвонаармейцы?

— Вы, таварыш, не сварыцеся. Ня маеце на гэта права!

— А чаго тут лазіце і палохаеце нам перамытнікаў?

— Мы ішлі па дарозе... вельмі ціха...

Шчур, працягваючы сьвяціць ліхтарыкам, таксама саскочыў уніз. Пасьля загасіў ліхтарык, і нас на нейкі момант, пакуль мы не прызвычаіліся, агарнула цемра.

— У вас ёсьць крыху часу? — запытаўся сябра ў чырвонаармейцаў.

— Ёсьць.

— Дык дапаможыце нам... Трэба ціха.. Могуць пачуць. Зараз палова другой. Ёсьць сэнс яшчэ да трох пасядзець...

Адзін з салдатаў адгукнуўся да мяне:

— Таварыш, на тым баку ў кустах хтосьці сядзіць.

— Адкуль гэта ведаеце?

— Бачылі, як запалілі папяросу. Бліснула запалка.

Зразумеў, што заўважылі там Грабара, і адказаў:

— Гэта наш чалавек... Ведаеш Макарава?

— Чулі...

— Гэта ён.

— А мы думалі — перамытнікі. Чакалі, што выйдуць на поле, але ня вылезьлі. Таму пайшлі ўперад, бо ў кустах чорт яго ведае хто можа сядзець.

— Добра зрабілі, — вымавіў я, зьвярнуўшыся да салдат, — калі б нечакана напалі, ён мог бы вас пастраляць.

Шчур забірае сабе аднаго чырвонаармейца, а я другога. Вяртаемся на свае месцы і цікуем далей. Паціху размаўляю з салдатам. Ён з Барысава. Расказаў мне падрабязна пра сябе і службу. Кажа, што на адным прамежку падпольнікі возам перавозяць тавар у Мінск. Абяцае дапамагчы нам наладзіць засаду. Пытаецца ў мяне, якой фірмы рэвальвер. Упершыню за сваё жыцьцё бачыць такую зброю.

Каля трэцяй гадзіны ночы перастаём пільнаваць. Шчур ціха двойчы сьвіснуў і са сваім кампаньёнам сышоў уніз. Мы таксама зьбягаем з пагорка і выходзім на дарогу. Пасьля дамаўляемся сустрэцца з чырвонаармейцамі ў нядзелю а дзевятай гадзіне вечара, непадалёку ад купіны кустоў, справа ад дарогі, на тым беразе рэчачкі. Разьвіталіся з салдатамі, якія пакрочылі ў напрамку граніцы. Пасьля мы пайшлі шукаць Грабара. Вылез нам насустрач з кустоў.

— Што ў цябе чуваць? — запытаўся ў таго.

— Былі тут масалкі... удвух... Панюхалі, панюхалі і пайшлі... Думаў лупануць па іх з комінаў, але не хацеў шухеру рабіць.

— Заўважылі, як ты курыў, — вымавіў Шчур. — Ты глядзі, так нельга!

Пакручастымі вузкімі сьцежкамі мы пайшлі ў глыб лесу. Дарога цягнулася доўга. Некалькі разоў зьмянілі напрамак... Перамералі велікаватую дрыгву. Нарэшце, калі пачало сьвітаць, затрымаліся ў надзейным, добра схаваным месцы. Тут наладзілі днёўку.

Перш за ўсё зьелі сьняданьне. Па малой пайцы хлеба і вялікаму кавалку сала, па палове шакаладкі і па некалькі глыткоў сьпірту на брата.

Разагрэтыя ад руху і алкаголю, мы кладземся спаць. Я вартую першым. Так рабілі заўсёды: ахоўваем спакой сяброў па дзьве гадзіны кожны. Заснуць нельга. Стараюся ня класьціся на зямлю. Сяджу, стаю, паціху хаджу побач з нашай схованкай, але не прыкладаюся да зямлі — можна заснуць і не заўважыць, як гэта выйшла.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 29—6.**

# УСЕ МЫ З ХАТ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вучобу ў школе падлетку давялося сумяшчаць з работай вясковага паштальёна, што дало яму магчымасць сустракацца з многімі людзьмі, бачыць іх жыццё, сціплыя радасці і вялікія праблемы, адчуваць боль за многія скалечаныя вайной чалавечыя лёсы. Пра гэта пазней пісьменнік раскажа ў кнізе прозы "Крыло цішыні", якая мае падзагаловак "Кніга вёскі" (1976), куды ўвайшлі аповесці "Крыло цішыні", "Усе мы з хат" і мастацкі нарыс "Даверлівая зямля". Гэта празрыстая, цудоўная проза глыбока кранае сваёй непасрэднасцю, чысцінёй і багаццем духоўнага свету герояў, простых, звычайных людзей, якія прывыкалі да мірнай цішыні над супакоенай зямлёю Сябрыні. Але вайна яшчэ доўга будзе адгукацца ў іх сэрцах, як і ў памяці аўтара, які дзіцем перажыў яе ліхалецце. Да гэтай тэмы ён будзе звяртацца неаднойчы (аповесць "Пыл пад нагамі"), так або інакш закранаць у многіх сваіх творах, хоць яна і не стане вызначальнай у яго прозе.

Даніну памяці і павагі пісьменнік аддае вясковым людзям, сярод якіх ён вырас, увабраў лепшыя рысы сялянскага характару: працавітасць, сціпласць, памяркоўнасць, дабрату, шчырасць. Родная зямля, яе цудоўная прырода, спадчынныя здольнасці абумовілі мастацкі талент Я.Сіпакова. Яго славутая аповесць "Усе мы з хат" стала ў беларускай літаратуры своеасаблівым сімвалам-метафарай. Яна трапна вызначыла стан нашага сучасніка, гараджаніна-інтэлігента, выхадца з вёскі, а такімі з'яўляемся ўсе мы. "Усе мы з хат, -- гаворыць адзін з герояў аповесці, -- толькі разышліся ў розныя бакі... але ж не забываемся, адкуль мы родам, і помнім, што хлеб, які ўсе ядзім кожны дзень, хлеб, які трэба нам як паветра, вырас на дабрыні клапатлівых нашых бацькоў..."

Колькі вострых, балючых праблем узнімае пісьменнік у сваіх творах, прысвечаных вёсцы! І гэта ў гады, калі патрабавалася асабістая мужнасць, каб адкрыта і праўдзіва гаварыць пра набалелае, пра тое, што бачыў і разумеў у адвечна неперспектыўным вясковым жыцці. Разам з тым, мала ў каго з празаікаў сустрэнеш такія шчыразамілаваныя адносіны да вяскоўцаў, працавітых да самаахвярнасці, бо тое, як падкрэслівае аўтар, што атрымліваюць яны за сваю адданасць і вернасць зямлі, сялянскай працы, якая ніколі не канчаецца, прыніжае іх чалавечую годнасць. Сэрца сціскаецца ад жалю, калі, уваходзячы ў лёсы многіх герояў Я.Сіпакова, бачыш іх сённяшні дзень: адзінокія пакінутыя старыя ў вёсках, дзе вокны шмат якіх хат паракрыжаваны, забіты дошкамі... Хіба такога яны чакалі лёсу? (апавяданне "Бывайце, Вясёлыя Скакухі"). Жыццё нашага народа ў любыя перыяды і пры любой уладзе было нялёгкім, але ж людзі жылі, сеялі жыта, гадавалі дзяцей, захоўвалі мову, звычаі, лепшыя традыцыі, звязаныя з працоўным сялянскім кругазваротам, -- таму жыве вера і надзея. У гэтым аптымістычным сцвярджэнні глыбокі падтэкст твораў Я.Сіпакова. З цягам часу мастацкая палітра пісьменніка набывае шматфарбнасць і разнастайнасць у жанравых і тэматычных адносінах. Працуючы пасля заканчэння факультэта журналістыкі БДУ (1960) у часопісе "Вожык" разам з Б.Сачанкам, Р.Барадуліным (пазней у часопісе "Маладосць"), Я.Сіпакоў піша шмат гумарыстычных твораў, часта падпісваючы іх, калі яны сачыняліся агульна, псеўданімам, складзеным з трох прозвішчаў -- Сібарсач. Цэлыя зборнікі іранесак і гумарэсак, як вызначаў іх сам аўтар, выходзілі ў 60--80 гады. У іх жыццё грамадства паўстае скрозь прызму гумарыстычнага асэнсавання, што давала пісьменніку магчымасць інверсійна выказваць свае адносіны да розных негатыўных з'яў, адмоўных рыс у характары чалавека. Гэтыя негатыўныя з'явы сканцэнтравана будуць паказаны потым у аповесці "Жыві, як хочацца", заснаванай на матэрыяле гарадскога побыту.

Адметнай асаблівасцю творчай манеры Я.Сіпакова з'яўляецца тое, што яму ўласціва аднолькава захопленае стаўленне і да паэзіі, і



да прозы. У кнігах паэзіі "З вясны ў лета", "У поўдзень да вады", "Вочы ў вочы", "Усміхніся мне", у вянку санетаў "Жанчына" спалучаюцца элементы традыцыйнакласічнай паэтыкі, фальклору і новыя формы мастацкага ўвасаблення рэчаіснасці. Гэтыя зборнікі моц[illegible] глыбокім асэнсаваннем асабі[illegible] жыццёвага вопыту аўтара, які раскрываецца ў цеснай сувязі з лёсам пакалення сучаснікаў, якія перажылі вайну, пасляваенныя нястачы і цяжкасці. Разнастайная праблематыка гэтых паэтычных кн[illegible]тывізуе творчы, ідэйна-эстэ[illegible]ы пошук Я.Сіпакова, абумоўлівае пашырэнне эпічнага гучання ў вершах і паэмах.

Але найбольшае суперажыванне выклікаюць яго лірычныя вершы, у якіх роздум паэта перамяжоўваецца са шчырымі пачуццямі любові і прыхільнасці да радзімы, яе гісторыі, мовы.

Ад гэтых асабістых пачуццяў, лірычных настрояў, у якіх тым не менш раскрываюцца надзённыя пытанні жыцця нашага сучасніка, пісьменнік пераходзіць да агульназначных праблем. У кнізе "Веча славянскіх балад", за якую Я.Сіпакоў атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі імя Я.Купалы, паэтычна асэнсоўваецца гісторыя славян як частка агульначалавечай гісторыі. Расказваючы пра дасвецце славян, пісьменнік стварае высокапаэтычныя балады з рускай, беларускай, польскай, балгарскай, сербскай, славенскай, македонскай, чэшскай, украінскай гісторыі. Балады Я.Сіпакова наогул значна пашырылі тэматычныя і геаграфічныя абсягі сучаснай беларускай паэзіі. Многія яго балады, вершы, паэмы -- гэта своеасаблівы дыялог аўтара з сучаснікам, адказным за будучыню планеты, услаўленне хараства зямлі і прыроды, жаночай прыгажосці, кахання, сяброўства, вернасці.

З незвычайнай павагай, цнатлівасцю, пакланеннем ставіцца пісьменнік да жанчыны. Ёй, жанчыне-маці, сястры, каханай, ён прысвяціў вянок санетаў, многія вершы, кнігу "Жанчына сярод мужчын", у якой -- радасць і турботы, сямейныя ўзаемаадносіны, спачуванне нялёгкай долі жанчыны-працаўніцы. /..."Дазволь, жанчына, ў ногі пакланіцца.// Ты -- маці, жонка, ты -- дачка, сястра, // Твая заўсёды гожая пара. //Дазволь, жанчына, у ногі пакланіцца"/.

Творчыя дасягненні Я.Сіпакова -- гэта не толькі высокамастацкія паэтычныя зборнікі, але і шматлікія кнігі прозы, якія ўзбагацілі сучасную беларускую літаратуру. Нам цікава ісці па старонках "Ахвярнага двара", крочыць разам з аўтарам па ўкраінскай, таджыкскай, армянскай зямлі, пабываць у пушкінскім Міхайлаўскім і, вядома ж, апынуцца на зямлі беларускай, адчуць яе боль і праблемы, непараўнальныя з іншымі. "Два браты і сястра з нетутэйшымі імёнамі -- Катаклізм, Апакаліпсіс і Катастрофа -- тройца, але не святая, а клятая -- нахабна шыбуюць па тутэйшай зямлі і вучаць чорнай, д'ябальскай працы сваю нашчадніцу з такім ужо, ці чуеце, тутэйшым імем -- Бяда...

Хатынь сабрала пад сваё неба чатыры сотні знішчаных вайною вёсак.

А колькі мёртвых, хоць і ацалелых, вёсак забярэ без вайны, праглыне Чарнобыль?

Быў -- кожны чацвёрты, зараз -- кожны пяты.

Мы ўсюды і ва ўсім спяшаліся быць першымі: першымі жадалі прыбегчы ў камунізм, першымі выракліся роднай мовы...

А сёння мы першыя яшчэ і па радыяцыі.

Чорна на душы..." ("Одзіум").

З "Одзіумам" можна параўнаць глыбока балючы твор "Узятак з маўчання", дзе Я.Сіпакоў задумваецца над складанейшымі праблемамі выжывання шматпакутнай беларускай нацыі. Гэта своеасаблівыя думкі "ўроссып", якія ўзнікаюць у кожнага свядомага беларуса, роздум над сваім асабістым жыццём, неаддзельным ад жыцця Бацькаўшчыны: "Часам здаецца, што Беларусь палігон для эксперыментаў.

Мы з радасцю бралі да сябе самую брудную, экалагічна небяспечную прамысловасць -- нафтаперапрацоўчую, хімічную таксічную... Па ўсіх граніцах Беларусь абстаўлена атамнымі электрастанцыямі суседзяў. У нас, здаецца, самае забруджанае паветра, самыя брудныя рэкі і азёры, лясы і землі. Нітраты, хімікаты, знішчаты... Меліярацыя. Экалогія душы. Здзек над роднаю моваю.

А над усім гэтым, над цэлым краем распасцёр сваё страшначорнае крыло Чарнобыль, які да гэтага столькі гадоў лічыўся чамусьці толькі ўкраінскай бядою... І ўвесь свет сочыць за зноў жа беларускім эксперыментам: змахне ён гэтым крылом з карты Беларусі цэлы народ, шматпакутны народ, ці не змахне?

Разумеючы ўсё гэта, хочацца крыкнуць, каб пачулі ва ўсіх кутках планеты: -- Свеце! Запішы хутчэй у Чырвоную кнігу беларуса, бо калі ўсё пойдзе так і далей, то запісваць ужо неўзабаве не будзе каго..." ("Узятак з маўчання").

"...Але ж мы цярплівыя.
Будзем чакаць!
З веку ў век..." ("Одзіум").

Жыве ўсё ж у мастака-творцы вера. А як жыць без веры і надзеі на гэтай цудоўнай, прыгожай зямлі Беларусі?

Зброя пісьменніка -- слова, і сваім мастацкім словам ён змагаецца за тое, каб жыў наш народ, каб пра яго ведалі іншыя. Многія творы Я.Сіпакова перакладзены на замежныя мовы, іх чытаюць у свеце на хіндзі, англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай, балгарскай, славацкай, польскай, рускай, украінскай, грузінскай, латышскай, малдаўскай, узбекскай, эстонскай і іншых мовах. На беларускую мову Я.Сіпакоў перакладаў творы А.Пушкіна, Т.Шаўчэнкі, А.Блока, А.Міцкевіча, А.Туманяна, А.Цэрэтэлі, Э.Межэлайціса, Р.Гамзатава, руны "Калевалы" (кніга выбраных перакладаў "На волю птушку выпускаю" -- 1989).

Паэтычны дар Я.Сіпакова шматгранны і глыбокі. Яго творчая актыўнасць не спыняецца, абяцаючы чытачам сустрэчы з новымі, высокамастацкімі творамі таленавітага пісьменніка.

**Лідзія САВІК.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Васіль ЖУКОВІЧ**

### БЕЛАРУСКІЯ ЭМІГРАНТЫ

*Сп. Юлі АНДРУСЫШЫНАЙ*

**Дзяцей з табой, Радзіма, разлучалі...**
**З крутых дарог замежнага жыцця**
**яны глядзелі з болем і адчаем,**
**як над табой лунаў нявол' сцяг.**

**Сынам і дочкам клопат, каб з дарогі**
**тваёй сышла злавесная імгла.**
**Яны глядзелі на цябе з трывогай,**
**калі забраным краем ты была.**

**Так, многа зла, Радзіма, ты спазнала,**
**ліхіх суседзяў знала -- Бог суддзя.**
**Змяніўся час. Ізгояў ты прызнала.**
**Яны з надзеяй на цябе глядзяць...**

*Восень 1989 -- ліпень 1993 г.г.*

* * *

**Награшылі немцы, награшылі...**
**Каб загладзіць даўнюю віну,**
**хочуць заплаціць яны грашыма**
**ўсім жывым ахвярам**
**за вайну.**

**Толькі нашым, праз каго пальецца**
**рэчка марак, ім чаго хварэць**
**за братоў!..**
**Сёй-той і нажывецца,**
**хто на горы ўмее рукі грэць.**

**Водзяць шмат каго за нос**
**саветы:**
**быў забраны -- сведкаў прывядзі...**
**Прывядзі ім сведкаў з таго свету**
**або сам хутчэй туды сыдзі.**

*1993 г.*

* * *

**Адзінота вас мучыць і сум!**
**Не аддам я належнае ім,**
**я адзін не бываю зусім, --**
**з цэлым светам пачуццяў і дум.**

*1994 г.*

### МОЙ НАРОД

**МАНАЛОГ**

**Чалавек, радзіна, род, народ...**
**Радасць і смутак чытаю ў тваіх вачах,**
**на тваім чале, чала -- век.**
**На радзіны, на вяселле, на памінкі**
**збіраецца твая радзіна.**
**Радзіна радуецца. Радзіна засмучаецца.**
**Радзіна радзіцца. Нараджаецца рада,**
**удароўваецца парада -- людзі і даюць рады**
**розным бедам, нягодам.**
**З роду ў род перадаецца ўсё святое.**
**Вядзецца род. Жыве народ.**

**Падобна, як на ніве залатому коласу**
**пагражае збуялае пустазелле,**
**народу майму пагражае**
**насельніцтва глухата.**
**Хоць, як і сам народ,**
**насельніцтва села, асела, пасялілася,**
**насяліла паселішчы,**
**яно чужое народу,**
**бо не знае той высокай еднасці,**
**якую мае народ. Насельніцтва лічаць,**
**як статак, каб забяспечыць ядою.**
**Хлеб і відовішчы -- спажыва яго.**

**Народ -- родны,**
**высакародны, высокадухоўны.**
**Лікам не вылічыць яго велічы.**
**Маса -- паняцце другараднае.**
**Мне назваць бы вялікім цябе, мой адзіны,**
**ды няма на планеце народаў малых.**
**З чым параўнаць народ!**
**Чалавек -- зорка, род -- сузор'е.**

**Народ -- гэта цэлы духоўны Сусвет.**
**З глыбіні стагоддзяў да нас ідзе**
**сіла яго стваральнай энергіі. Праз цэлае**
**тысячагоддзе даходзіць святло мужнасці**
**і любові да Бацькаўшчыны князя Рагвалода**
**і легендарнай Рагнеды-князёўны. Няўрымслівы**
**дух нашчадкаў сілкуецца разумнай адвагаю**
**Усяслава Чарадзея, святасцю Ефрасінні**
**Полацкай і Кірылы Тураўскага, стойкасцю**
**Давіда Гарадзенскага і Сяргея Астрожскага,**
**асветнай мудрасцю Францішка Скарыны,**
**глыбінным гуманізмам Міколы Гусоўскага,**
**геройствам і самаахвярнасцю Каліноўскага,**
**хараством талентаў Міхала Агінскага**
**і Масіма Багдановіча.**
**Так, народ ёсць духоўны Сусвет. Ды навошта**
**я прыгадаў Страцім-лебедзя! Бачу страшнае:**
**"І насялі тут на лебедзя**
**птахі дробныя ўсёй стаяю".**
**Ці ж не гэтак насельніцтва**
**насела на народ "усёй стаяю",**
**не дае грудзям "вальней уздыхнуць",**
**не дае крылам "шырэй узмахнуць..."**

**Божа мой, не дай Яму**
**долі жорсткае Страцім-лебедзя!**
**Сэнс які губіць гэтакі Сусвет!!**
**Звесці гэткі род -- найвялікшы грэх!**

**З роду ў род перадаецца ўсё святое.**
**Вядзецца род. Жыве народ.**

*1995 г.*

## ПАЎЛО ТЫЧЫНА І БЕЛАРУСЬ

# БЕЗ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ НЯМА ВЕЧНАСЦІ

Як бы ні было цяжка чалавеку ў сённяшнім жыцці нашым, якія б сумныя думкі і штодзённыя клопаты ні адольвалі яго, прага духоўных зносін паміж людзьмі вялікая, бо яна -- крыніца натхнення і дае сілы для далейшага існавання. Гэтую выснову можна было зрабіць, пабыўшы на вечарыне, прысвечанай 105-й гадавіне з дня нараджэння вядомага ўкраінскага паэта, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча -- Паўла Тычыны, арганізаванай таварыствам "Беларусь -- Украіна" і беларускай асацыяцыяй украінцаў "Ватра" пры дапамозе Саюза пісьменнікаў Беларусі.



П.Тычына прайшоў няпростую школу жыцця. Сын вясковага дзячка, скончыў духоўную семінарыю, Кіеўскі камерцыйны інстытут, з 1912 года пачаў друкавацца. Першы зборнік "Сонечныя кларнеты" ўбачыў свет у 1918 годзе. П.Тычына быў міністрам асветы Украіны, акадэмікам АН Украіны, аўтарам украінскага гімна, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Шаўчэнкі.

Паэзія П.Тычыны неўміручая, бо яна сапраўдная, ёй уласціва высокая чалавечнасць, а па словах Пімена Панчанкі, "без чалавечнасці няма вечнасці". Гэтую думку падкрэсліў, выступаючы на вечарыне, Сяргей Законнікаў. Адной з асноўных тэм вершаў П.Тычыны была тэма братэрства славянскіх народаў. Сардэчная згода, моцная дружба звязвалі П.Тычыну з беларусамі. Упершыню ў 1928 годзе наведаў ён Беларусь і з таго часу не парываў з ёю сувязей. Ён добра ведаў беларускую мову, зрабіў шмат перакладаў Я.Купалы, Я.Коласа, Ф.Багушэвіча, К.Чорнага, П.Броўкі, М.Танка, П.Панчанкі. З паэзіяй П.Тычыны беларусы пазнаёміліся дзякуючы перакладам Я.Коласа, П.Броўкі, М.Танка, М.Аўрамчыка, Ю.Гаўрука. Прыемна, асабліва ў наш няпросты час, чытаць радкі з верша "Беларусі" ў перакладзе М.Танка:

**...Народаў дружба**
**крылы распасцерла,**
**Мы з ёю і дужэем і расцём.**

**Нам гэта дружба**
**шчасця дні саткала.**
**Яна, нібы бярозу з гор рака,**
**Жывіла Багушэвіча, Купалу,**
**Шаўчэнку, Украінку і Франка.**

**Цяпер яна яшчэ ярчэй палае,**
**Ты асяні нас, дружба, асяні!**
**Вітаю вас, браты мае, вітаю,**
**Адной матулі дочкі і сыны.**

П.Тычына быў вельмі шчырым чалавекам, ён жадаў дабра і шчасця ўсім людзям зямлі, у яго было шмат сяброў за межамі Украіны -- аб гэтым гаварылі, выступаючы на вечарыне, Пятро Прыходзька, Алесь Слесарэнка, украінскі паэт Пятро Гарэцкі, Алесь Пісьмянкоў. У зале гучала музыка, украінскія песні, студэнты і школьнікі чыталі вершы, прысутнічалі прадстаўнікі пасольства Украіны В.Ешчанка, Т.Асауленка, беларускі паэт Анатоль Вярцінскі, тут панаваў дух даверу і ўзаемаразумення. Група "Артсаюз" з Нікапаля падрыхтавала выставу жывапісу ўкраінскіх мастакоў. Вельмі прыемнае ўражанне выклікаюць карціны. Дарэчы, яны будуць дэманстравацца яшчэ пэўны час, і жадаючыя змогуць не толькі ўбачыць іх, але і набыць.

"...Не раз'ядна́юць нас цяпер нягоды,.." -- казаў некалі П.Панчанка. І хочацца спадзявацца, што яго ўпэўненасць пяройдзе і да нас сённяшніх.

**Алена КАЗЛОВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: вечарына ў Беларускім таварыстве дружбы. Выступае паэт Сяргей ЗАКОННІКАЎ; карціны з выставы ўкраінскіх мастакоў: М. ЛУГАВЕНКА "Сланечнікі", М. ЧАРВОТКІН "К вясне".**





## АЛЕСЬ ЗВОНАК



**2 лютага 1996 года памёр Алесь (Пётр Барысавіч) Звонак -- таленавіты паэт, драматург, перакладчык, тэатразнавец, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Нацыянальная літаратура страціла яшчэ аднаго шчырага рупліўца, чалавека шматграннага таленту і нялёгкага жыццёвага лёсу.**

**Першыя вершы Алеся Звонака былі надрукаваны ў часопісе "Малады араты" ў 1925 годзе, а праз год разам з Я. Бобрыкам і Я. Туміловічам ён выдаў зборнік "Пунсовае ранне". Рамантычнай узнёсласцю і маладым запалам вызначаліся яго кнігі першай паловы 30-х гадоў "Буры ў граніце", "На лінію агню", "Мая Радзіма", паэмы "Каршун", "Загай". Філасофскім роздумам аб сэнсе жыцця, адвечнай зітаванасці чалавека з прыродай, трывогай за мір на зямлі былі прасякнуты яго пазнейшыя кнігі "Табе адной", "Запаветнае", "Россып", "Прадчуванне", "Санеты", "Ружовая чайка". Двойчы выходзілі Выбраныя творы паэта. У 1992 годзе Алесь Звонак стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь за кнігу вершаў "Святлацені".**

**У некралогу, падпісаным дзяржаўнымі дзеячамі і калегамі, гаворыцца, што ўсё сваё жыццё Алесь Звонак пражыў мужна і сумленна, прысвяціўшы яго самаадданаму служэнню Бацькаўшчыне, роднай літаратуры. Ён заслужыў любоў і павагу тых, хто быў побач з ім, хто ведаў яго як добрага і мудрага чалавека, надзейнага сябра і таварыша. Такім ён і застанецца ва ўдзячнай памяці нашчадкаў.**

# ГЕРОЙ ДВУХ КАНТЫНЕНТАЎ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Хрысцілі яго ў косаўскім касцёле 12 лютага 1746 года. І ён атрымаў па прынятаму ў католікаў звычаю тры імені -- Андрэй Тадэвуш Банавентура, з якіх выбраў сабе адно -- Тадэвуш.

Дзяцінства Тадэвуша прайшло ў фамільным маёнтку Сяхновічы Кобрынскага павета (цяпер Жабінкаўскі раён Брэсцкай вобласці), дзе ён добра пазнаёміўся з жыццём сялян. У дзевяць гадоў яго аддалі ў школу манаскага ордэна піяраў, якая знаходзілася на Палессі ў мястэчку Любяшова Пінскага павета (цяпер гэта цэнтр Любяшоўскага раёна Валынскай вобласці Украіны). Тут ён правёў пяць гадоў (1755-1760). У піярскай школе, дзе выхаванне і выкладанне знаходзілася на вельмі высокім узроўні, Тадэвуш вывучаў лацінскую, польскую, французскую, нямецкую мовы, атрымаў добрыя веды па матэматыцы. Нягледзячы на тое, што сярэднюю адукацыю Тадэвуш набыў у кляштарнай школе, у дачыненні да рэлігійных пытанняў ён быў індыферэнтны, талерантны, без праяў фанатызму. І такім заставаўся на працягу ўсяго жыцця.

У 1765 годзе Касцюшка быў прыняты ў Рыцарскую школу ў Варшаве, на чале якой стаяў Адам Казімеж Чартарыскі. Кадэты элітарнай навуковай установы вывучалі, апрача моў (лацінскай, нямецкай, французскай) і літаратуры, шырокае кола дакладных дысцыплін -- вышэйшую матэматыку, фізіку, геаметрыю. Найбольш здольныя вучні мелі магчымасць вучыцца далей у інжынернай школе, заснаванай пры Рыцарскай школе. Да іх ліку трапіў і Тадэвуш Касцюшка. Ён стаў адным з лепшых вучняў гэтай школы.

З мэтай удасканалення ведаў у галіне ваеннай інжынерыі ў другой палове 1769 года Касцюшка выехаў на вучобу ў Парыж. Паездка была ажыццёўлена пры матэрыяльнай падтрымцы караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У якасці каралеўскага стыпендыята Касцюшка знаходзіўся ў Францыі пяць гадоў. Яго побыт у Парыжы супаў па часе з выхадам у свет прац выдатных французскіх асветнікаў XVIII стагоддзя -- Вальтэра, Мантэск'ё, Русо і інш., якія былі накіраваны супраць абсалютысцкай дзяржавы і феадальнага ладу і змяшчалі ліберальна-дэмакратычныя ідэі. У гэты час у Парыжы пачала выходзіць таксама слынная "Энцыклапедыя, альбо Тлумачальны слоўнік навук, мастацтваў і рамёстваў", на чале якой стаялі Д'Аламбер і Дзідро і якая на доўгі час прыкавала ўвагу ўсёй думаючай Еўропы. У ёй удзельнічалі найлепшыя вучоныя і пісьменнікі Францыі. "Энцыклапедыя" не толькі прывяла ў сістэму ўсю суму ведаў, назапашаных навукай да сярэдзіны XVIII стагоддзя, але павяла бескампрамісную барацьбу супраць феадалізму, абсалютызму і каталіцкай царквы. Як і іншыя працы французскіх асветнікаў XVIII стагоддзя, яна адыграла выдатную ролю ў ідэйнай падрыхтоўцы французскай буржуазнай рэвалюцыі 1789 года, у абуджэнні свабоднай грамадскай думкі на кантыненце. Значны ўплыў аказала яна і на маладога ваеннага інжынера, яго светапогляд. Бясспрэчна, што знаходжанне Касцюшкі ў Францыі напярэдадні рэвалюцыі, у час змагання асветнікаў з абсалютызмам, садзейнічала ўсталяванню ў маладога інжынера рэспубліканскага светапогляду, зрабіла яго прыхільнікам дэмакратычных ідэй.

## ЗА СВАБОДУ ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАЎ

У 1775 годзе пачалася вайна за незалежнасць англійскіх калоній у Паўночнай Амерыцы. Па сутнасці, гэта была сацыяльная рэвалюцыя, накіраваная супраць англійскага каланіяльнага панавання, і таму ў хуткім часе янаператварылася ў моцны дэмакратычны рух. Побач з рознымі слаямі каланістаў у ёй удзельнічалі тысячы добраахвотнікаў з розных еўрапейскіх краін (каля 7 тысяч), прыхільнікаў незалежнасці калоній. Сярод іх апынуўся і наш зямляк Тадэвуш Касцюшка. Ён знаходзіўся ў Паўночнай Амерыцы амаль ад пачатку і да канца вайны (1776—1783). Рашэннем Кангрэса ў 1776 годзе Касцюшка быў залічаны ў амерыканскую армію ў чыне палкоўніка, а закончыў яе брыгадным генералам. Ён праявіў сябе ў ёй як выдатны ваенны інжынер.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: помнік Тадэвушу КАСЦЮШКУ ў Вашынгтоне (1910 г.).**

**(Працяг будзе).**



## *МУЗЕЙ НА ПАЧАТКУ ШЛЯХУ*

# ТАЛАКОЙ ЛЯГЧЭЙ ПРАЦАВАЦЬ



Гістарычны працэс фарміравання і развіцця тэатральнай і музычнай культуры Беларусі складаны і неадназначны. Вакол гэтых праблем спрэчкі, дыскусіі, палеміка то прыціхаюць, то разгараюцца большай часткай на ўзроўні слоў, а менш за ўсё на ўзроўні дзеянняў. І гэта зразумела, бо лёс нашых мастацкіх каштоўнасцей, якія маглі б пацвердзіць узровень духоўнай культуры народа на пэўных этапах гісторыі, быў не заўсёды спрыяльным. Сховішчы, асабістыя калекцыі, архівы нацыянальных багаццяў у гэтай галіне альбо загінулі ў час ваенных дзеянняў на беларускай тэрыторыі, альбо былі разрабаваны.

Пошук, узнаўленне і захаванне здабыткаў тэатральнага і музычнага мастацтва стаў галоўнай мэтай стварэння будучага музея, рабочая група якога была створана 5 гадоў таму назад. Але, як вядома, ад юрыдычнага акта да фактычнай дзейнасці вялікая адлегласць. Зразумела, што для плённай дзейнасці любой установы культуры неабходна адпаведнае памяшканне. Фармальна яно як бы ў нас і ёсць -- гэта так званы "Дом масонаў", што ў Верхнім горадзе. Аднак яго рэстаўрацыя і перабудова пад музей зацягнулася на нявызначаны час.

А пакуль... калектыў супрацоўнікаў размясціўся ў "Гасцёўні Галубка", што ў Траецкім прадмесці. Вышукваем, збіраем, апрацоўваем экспанаты, ствараем канцэптуальныя прынцыпы экспазіцыі, выпрацоўваем мастацкія падыходы ў афармленчым дызайне.

Так, напрыклад, абмеркаваны і зацверджаны "мастацкі вобраз" усёй экспазіцыі, якая будзе дзейнічаць як "тэатр у тэатры". Гэта значыць, пэўныя экспанаты тэатральнага жанру могуць "ажываць" пры дапамозе адмысловых механізмаў. І тады наведвальнікі стануць гледачамі сцэнічнага дзеяння.

У аснову экспазіцыі пакладзены тэматычны прынцып, але з улікам храналогіі падзей, з'яў тэатральнага і музычнага жыцця, якія вызначаюць тэндэнцыі часу. Такіх тэматычных акцэнтаў запланавана 12, а размешчаны яны будуць у 10 залах агульнай плошчай 300 квадратных метраў.

Значная роля адводзіцца так званаму "ўнутранаму дворыку" музея, які прызначаецца для правядзення міні-выстаў музычных інструмент... эатральных касцюмаў, эскіз... экарацый, а таксама канцэртаў, сустрэч з дзеячамі тэатральнай і музычнай культуры. Тут можа быць буфет-кафэ -- месца сустрэч мастакоў, артыс...

І яшчэ адна ад... асць музея -- зала "Дзіцяч... свет" будзе экспазіцыйна-ігравой, тут дзеці змогуць пагуляць з лялькамі, сфатаграфавацца на ўспамін.

Усё сказанае -- перспектыва, а што зараз? Зараз пошук экспанатаў сярод тых, хто зацікаўлены ў адраджэнні нацыянальнай тэатральнай і музычнай культуры, у каго захаваліся ці захоўваюцца матэрыялы як на радзіме, так і за яе межамі. Ужо сёння ў фондах музея сабрана даволі многа з асабістых архіваў дзеячаў мастацтва -- Л.Александроўскай, Г.Макаравай, Р.Кашэльнікавай, У. Галубка, Е.Міровіча, С.Станюты, Р.Шырмы, І.Жыновіча і іншых, усяго каля 5 000 адзінак.

Асабліва мы ганарымся матэрыяламі, звязанымі з дзейнасцю нашага славутага земляка М.Забэйды-Суміцкага, які ўсё сваё жыццё прысвяціў прапагандзе беларускай песні за межамі краіны. Вядома ж, ён быў не адзіным паўпрэдам нашага мастацтва ў далёкім замежжы. На жаль, нашы магчымасці наладжвання сувязей з тымі дзеячамі мастацтва, якія па розных прычынах аказаліся далёка ад радзімы, вельмі абмежаваныя. Гэта звязана з фінансавымі і арганізацыйнымі цяжкасцямі. І, карыстаючыся нагодай, калектыў музея звяртаецца да чытачоў газеты з заклікам прыняць чынны ўдзел у любой форме ў стварэнні першага ў Беларусі музея падобнага профілю.

Пошукавая праца на даным этапе, вядома ж, прыярытэтная. Але разам з гэтым у "Гасцёўні Галубка", дзе мы часова знаходзімся, супрацоўнікі музея праводзяць мерапрыемствы, звязаныя з канкрэтнымі падзеямі ў тэатральным і музычным жыцці рэспублікі.

Так, у гасцёўні адбыліся вечары-сустрэчы, прысвечаныя 60-годдзю Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета, 75-годдзю Акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы, 113-годдзю з дня нараджэння "бацькі беларускага тэатра" І.Буйніцкага, 110-й гадавіне з дня нараджэння У. Галубка, 90-годдзю з дня нараджэння Л.Александроўскай, 200-годдзю з дня нараджэння В.Моцарта; вечары памяці Г.Цітовіча, Ю.Семянякі, Б.Ужанцава, В.Кірычэнкі, З.Бабія і творчыя сустрэчы з народнай артысткай СССР С.Станютай, кампазітарамі І.Лучанком, А.Багатыровым, Г.Вагнерам, ваенным дырыжорам Б.Пенчуком; опернымі спевакамі Т.Ніжнікавай, Т.Шымко; галоўным рэжысёрам тэатра імя Я.Купалы В.Раеўскім, Рускага тэатра -- Б.Луцэнкам, тэатральнымі мастакамі П.Масленікавым і Я.Жданам.

У дзейнасці гасцёўні актыўна ўдзельнічае моладзь. Тут праходзяць канцэрты дзіцячага ансамбля "Званочкі", навучэнцаў Мінскага музычнага ліцэя, Мінскага музычнага вучылішча, студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі, Беларускага універсітэта культуры, педагагічнага універсітэта і іншых. Выступаюць госці з-за мяжы.

Яшчэ адным важным аспектам дзейнасці музея з'яўляецца арганізацыя перыядычных выстаў экспанатаў з фондаў музея. Напрыклад, ужо на працягу трох месяцаў дзейнічае выстава музычных інструментаў беларускіх майстроў, на якой наведвальнікі могуць убачыць інструментальныя вырабы -- бацькі і сына Жукоўскіх, В.Прасевіча, Я.Бацяноўскага, В.Кульпіна, У.Козака, К.Тарасенка, В.Крайко і іншых. Сярод інструментаў -- скрыпкі, басэтля, ліра, цымбалы дрытанічныя, гармонікі, жалейкі, дудкі, свістулькі і г.д. Значную цікавасць выклікаюць раяль, на якім музіцыравала Л.Александроўская, цымбалы выдатнага музыканта І.Жыновіча, фісгармонія канца XIX -- пачатку XX стагоддзяў.

Нашы праблемы? Іх шмат, як у жыцці краіны наогул. Гало... ж з іх -- немагчымасць ус... іць жывыя, канкрэтныя сувязі з людзьмі, якія маюць адносіны да мастацкай культуры Беларусі і жывуць па-за межамі краіны. Для папаўнення спе... льнай залы, прысвечанай тэ... Радзівілаў, якія, як вядома, шмат зрабілі ў сваёй сядзібе ў Нясвіжы дзеля развіцця тэатральнага мастацтва, мы не можам атрымаць камандзіроўку ў Польшчу, дзе, напэўна, ёсць адмысловыя матэрыялы па гэтай тэме.

А дзейнасць нашых супрацоўнікаў за мяжой зараз? Ведаем пра яе інфармацыйна, а не прадметна, на ўзроўні дакументальных матэрыялаў.

Музей ствараецца. Яго супрацоўнікі вядуць актыўны пошук экспазіцыйных матэрыялаў, навукова іх апрацоўваюць, вядуць прапагандысцкую работу сярод аматараў тэатра і музыкі, наладжваюць кантакты з усімі, хто мае адносіны да нашай мастацкай культуры. Але выніковасць гэтай карпатлівай працы залежыць не толькі ад нас. І таму звяртаемся да чытачоў газеты, тэатральнай і музычнай грамадскасці -- прыходзьце да нас, і не з пустымі рукамі, пішыце нам: **220029, г. Мінск, вуліца Старавіленская, 14.**

Дапамагайце добрымі парадамі, экспанатамі. У талацэ заўсёды лягчэй працаваць.

**А.МІХАЛЕНЯ, А. ЛАБОВІЧ.**





**НА ЗДЫМКАХ: макет будучага музея; кампазіцыя "Лялька Шагал". Мастакі Л. ЗІНОЎЕВА і Л. МАКСІМАВА; эскіз экспазіцыі "Школьны тэатр". Мастак У. КУРЖАЛАЎ.**

## *СПОРТ*

### ДА ПЕРАМОГІ ЯК НА КРЫЛАХ

...Трапілася на вочы табліца вынікаў чэмпіянату свету па біятлону, які праходзіць у Германіі. На першым месцы пасля чатырох гонак зборная Расіі, другое месца, уступаючы толькі сем ачкоў, займаюць спартсмены Рэспублікі Беларусь. І дзесьці далёка-далёка размясціліся калектывы чыста "зімовых" краін: Фінляндыі, Нарвегіі... Не вельмі шанцуе і гаспадарам спаборніцтваў, якія многія гады запар, асабліва мужчыны, былі лідэрамі на ўсіх спаборніцтвах.

Для беларускіх жа біятланістаў прыемнае пачалося ўжо з першага старту, калі ў гонцы са стральбой на 20 кіламетраў Вадзім Сашурын заваяваў бронзавы медаль. Усяго тры секунды не хапіла яму, каб падняцца на прыступку вышэй.

У гэтым відзе дамініравалі расійскія біятланісты: першым стаў С. Тарасаў, за ім на фініш прыйшоў В. Драчоў.

Затое ў спрынтарскай камандпай гонцы (10 кіламетраў) спартсмены памяняліся ролямі. Каманда Рэспублікі Беларусь, у складзе якой выступалі Аляксандр Папоў, Вадзім Сашурын, Алег Рыжанкоў і Пётр Івашка, нібы на крылах, імчалася да перамогі. Асабліва ўдалася нашай зборнай стральба: ніводнага промаху. Менавіта стральба падвяла біятланістаў Расіі. Але і яны выступілі добра -- заваявалі сярэбраныя медалі. За Расію выступаў на гэтай дыстанцыі добра знаёмы ўсім аматарам біятлону Віктар Майгураў -- былы "зборнік" Рэспублікі Беларусь. Італьянцам дасталася "бронза".

Яшчэ большага, чым ад мужчын, мы чакалі ад жанчын. У першую чаргу ад вопытнай Святланы Парамыгінай, якая на розыгрышы Кубка свету ўжо перамагала сёлета. Але, на жаль, удача на гэтым чэмпіянаце адвярнулася ад яе. Пятае месца -- у гонцы на 15 кіламетраў. Пасля два промахі (што рэдка з ёю здараецца) у спрынтарскай каманднай гонцы (7,5 кіламетра) не дазволілі зборнай Рэспублікі Беларусь падняцца вышэй чацвёртага месца.

Да канца спаборніцтваў можна яшчэ ўсё паправіць: мы расказалі толькі аб першай палове чэмпіянату. Старты біятланістаў у Германіі працягваюцца.

### НОВЫЯ ЗВАННІ

Кангрэс Міжнароднай шахматнай федэрацыі прысвоіў званне гросмайстра чэмпіёну Беларусі Аляксею Фёдараву. Міжнароднымі майстрамі сталі Уладзімір Папей, Алег Раманаў, Дзмітрый Лыбін. Званне "Міжнародны арбітр" атрымаў Абрам Ройзман. Ен жа стаў і міжнародным майстрам па гульнях у шахматы па перапісцы.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 155. Падпісана да друку 12. 2.1996 г.